ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (103) кастрычнік 2019 год
CATHOLICNEWS.BY

# 13 кастрычніка — 20 год Віцебскай дыяцэзіі




13 кастрычніка 2019 года Віцебская Рыма-каталіцкая дыяцэзія ў Беларусі адзначыла 20-ю гадавіну свайго існавання.

Віцебская Рыма-каталіцкая дыяцэзія была ўтворана 13 кастрычніка 1999 года Святым Айцом Янам Паўлам II на моцы Апостальскай Канстытуцыі “Ad aptius conselendum”. У той жа дзень Святы Айцец Ян Павел II прызначыў першым біскупам Віцебскім ксяндза доктара Уладзіслава Бліна, пробашча архікатэдральнага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Магілёве і магілёўскага дэкана. Генеральным вікарыем дыяцэзіі быў прызначаны ксёндз прэлат Францішак Кісель, пробашч касцёла Святога Андрэя Баболі ў Полацку.

## Белорусский иезуит на Филиппинах: “То, что проще, – лучше”



Стар. 11

## Грех ли отказываться от защиты родины?

Когда один из супругов-нехристиан принимает Крещение, становится ли их брак Таинством?

Кто получил свою награду на земле, получит ли её на небе?

Стар. 14



## Віцебская дыяцэзія мае двух новых святароў



Стар. 7

Больш матэрыялаў чытайце на сайце

Catholicnews.by



# Папа Францішак і новыя кардыналы наведалі Папу на пенсіі

**Пасля кансісторыя Святы Айцец і новыя кардыналы сустрэліся з Папам на пенсіі Бэнэдыктам XVI у кляштары "Mater Ecclesiae".**

"Увечары 5 кастрычніка 2019 года напрыканцы ўрачыстасці Звычайнага публічнага кансісторыя Святы Айцец і новыя кардыналы накіраваліся да манастыра "Mater Ecclesiae", каб сустрэцца з Папам на пенсіі Бэнэдыктам XVI", – паведаміў у спецыяльнай заяве кіраўнік Залы Друку Апостальскай Сталіцы Матэа Бруні.

Пасля кароткага прывітання, падчас якога Бэнэдыкт XVI нагадаў новым кардыналам пра каштоўнасць вернасці Папу, ён разам з Папам Францішкам удзяліў новым кардыналам блаславенне, гаворыцца ў паведамленні прэсавага прадстаўніка Святога Пасаду.

***Ян Мойсік***,
*беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Пяць новых блаславёных. Святы Айцец ухваліў дэкрэты



Кардынал Стэфан Вышынскі

**Польскі кардынал Стэфан Вышынскі будзе абвешчаны блаславёным. Пра гэта стала вядома 3 кастрычніка з паведамлення Кангрэгацыі па справах Кананізацыі.**

Усяго Касцёл будзе мець пяць новых блаславёных. Францішак прыняў напярэдадні кардынала Анджэла Бэчу, прэфекта Дыкастэрыі, і дазволіў абнародаваць адпаведныя дэкрэты. У адным з іх утрымліваецца пацвярджэнне цуду, здзейсненага праз заступніцтва кардынала Стэфана Вышынскага, арцыбіскупа-мітрапаліта Гнезна і Варшавы і Прымаса Польшчы, мужнага сведкі веры падчас камуністычнага рэжыму ў Польшчы.

Будуць беатыфікаваныя таксама дыяцэзіяльны святар з Калабрыі, кс. Францэска Матола, заснавальнік свецкага інстытута Аблатак Найсвяцейшага Сэрца, і тры свецкія вернікі: маладая рымлянка Алесандра Сабаціні (з супольнасці Яна XXIII) і два мучанікі – іспанец Хуан Родж Дыгль, забіты ў 19 гадоў падчас грамадзянскай вайны ў Іспаніі ў 1936 г., і бразільянка Бенігна Кардоса да Сілва, забітая ў Бразіліі ў 1941 г. у 33-гадовым узросце.

З прызнаннем гераічнасці цнотаў, слугамі Божымі сталі: італьянскі біскуп Аўгуста Чээарэ Бертацоні, памерлы ў 1972 г.; французскі святар Жан Луі Кэрб – заснавальнік Кангрэгацыі Парафіяльных Святароў або Катэхетаў Святога Віятара, памерлы ў 1859 г.; іспанская манахіня Марыя Францішка ад Дзіцяткі Езуса (свецкае імя: Марыя Націвідад Санчэс Віёр'я) з Ордэна Святой Клары, памерлая ў 1991 г.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Папа Францішак: "Ружанец вядзе да шчасця ў Небе!"

**Наследаваць місійны запал Маці Божай і маліцца Ружанец заклікаў Папа на заканчэнне агульнай аўдыенцыі, якая 9 кастрычніка прайшла на плошчы св. Пятра ў Ватыкане.**

"На працягу гэтага марыйнага месяца наследуйце місійную руплівасць і запал Маці Божай, станавіцеся вестунамі Хрыста ў кожным вашым жыццём асяроддзі", – заахвоціў вернікаў Пантыфік.

Святы Айцец нагадаў, што падчас аб'яўленняў у польскім мястэчку Гетшвальд Маці Божая казала пра важнасць штодзённай ружанцовай малітвы для атрымання збаўлення. "Яна запэўнівала, што ласкі, які будуць выпрашаны праз гэту малітву, стануць збаўчымі і прывядуць людзей да шчасця ў Небе. Памятайце пра гэта асабліва цяпер, у кастрычніку, месяцы, прысвечаным святому Ружанцу. Праз заступніцтва Марыі, Пасярэдніцы ласкаў, маліцеся пра мір у свеце, пра мудрасць для тых, хто мае ўладу, а таксама пра веру і еднасць для сем'яў", – сказаў Пантыфік.

Кастрычнік – месяц, прысвечаны ў Каталіцкім Касцёле ружанцовай малітве. Яна спалучаная з роздумам пра падзеі з жыцця Езуса Хрыста і Панны Марыі, што ўтвараюць чатыры часткі Ружанца – радасныя, балесныя, хвалебныя таямніцы і таямніцы святла.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Российский школьник написал письмо Папе Римскому и получил ответ

**Парень из Нижнего Новгорода рассказал настоятелю местного римско-католического прихода Успения Пресвятой Девы Марии, что написал письмо Папе Римскому Франциску и получил ответ.**

Рассказ школьника опубликовали на странице прихода в соцсети Вконтакте, сообщает Katolik.life.

– В апреле, сидя на уроках, мы обсуждали с другом, что можно написать Папе Римскому, и что он отвечает. Конечно, понятно, что отвечает пресс-служба, но интерес это не убавило. Я написал ему о том, как я хочу стать католиком, почему, как я живу и какие у меня есть проблемы, – пишет парень, который просил не называть его имени.

Прошел месяц, и автор уже думать забыл про это письмо, но на днях решил съездить в храм, посмотрел фотографии, которые были выставлены, помолился, и вдруг начал задумываться о Ватикане и о том, каково быть Папой.

– Как мне кажется, это была "подсказка" от Бога. Размышления были недолгими, и вот, когда я приехал домой, по привычке заглянул в почтовый ящик, а там посылка!

В адресе отправителя значилась Апостольская Нунциатура. В конверте была фотография Папы Франциска с его подписью, письмо и розарий, который, как сказано в письме, Папа лично освятил.



– Это так классно! Я прямо прыгал от счастья! В письме сказано, что Папе очень нравятся мотивы, побудившие меня написать ему, и что он будет помнить меня и мою семью в своих молитвах, – говорит парень.



## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакраментальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.

Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298



Караль і Эмілія Вайтылы са старэйшым сынам Эдмундам.
Фота: radiomaryja.pl

## Польскія біскупы згодныя распачаць працэс абвяшчэння благаслаўлёнымі бацькоў Яна Паўла ІІ

**9 кастрычніка Канферэнцыя епіскапату Польшчы дала афіцыйную згоду на распачацце беатыфікацыйнага працэсу бацькоў святога Яна Паўла ІІ.**

Як паведаміла Каталіцкае інфармацыйнае агенцтва КАІ, сабраныя на 384-м пленарным пасяджэнні польскага епіскапату біскупы выказалі сваю згоду на тое, каб можна было распачаць беатыфікацыйны працэс Караля і Эміліі Вайтылаў – бацькоў святога Яна Паўла ІІ.

Бацька будучага Папы Караль нарадзіўся 18 ліпеня 1879 года ў прадмесці горада Бельска-Бялай на поўдні Польшчы, ля падножжа Бескідскіх гораў. 10 лютага ён ажаніўся з Эміліяй з роду Качароўскіх, маці будучага Папы, якая нарадзілася 26 сакавіка 1884 года ў Кракаве. Сужэнцы мелі траіх дзетак: Эдмунда, Вольгу Марыю і Караля Юзафа – будучага Папу Яна Паўла ІІ.

Іх дачушка Вольга Марыя памерла нованароджанай, сын Эдмунд быў доктарам і памёр падчас эпідэміі скарлатыны ва ўзросце 26 гадоў.

Эмілія адышла ў вечнасць 13 красавіка 1929 года ва ўзросце 45-і гадоў, калі яе малодшаму сыну Каралю Юзафу не споўнілася яшчэ і дзевяці гадкоў. Яе муж Караль адышоў у вечнасць 18 лютага 1941 года, падчас Другой сусветнай вайны.

Караль Юзаф Вайтыла, які 16 кастрычніка 1978 года быў абраны Папам і прыняў імя Ян Павел ІІ, на ўсё жыццё захаваў светлыя і ўдзячныя ўспаміны пра сваіх бацькоў, якіх рана страціў.

Рашэнне Канферэнцыі епіскапату Польшчы дае магчымасць звярнуцца да Святога Пасаду па дазвол на распачацце беатыфікацыйнага працэсу на дыяцэзіяльным узроўні.

*Catholic.by*

# Папа Францішак устанавіў Нядзелю Божага Слова



**Трэцяя нядзеля Звычайнага перыяду будзе прысвечана цэлебрацыі, рэфлексіі і распаўсюджванню Божага Слова. Адмысловае распараджэнне Святога Айца ўтрымліваецца ў новым Апостальскім лісце "Aperut illis".**

Дакумент Францішка ў форме "motu proprio" быў абнародаваны 30 верасня – у 1600-годдзе з дня смерці перакладчыка Святога Пісання на лацінскую мову св. Гераніма.

Папа падкрэсліў, што ўстанаўленне Нядзелі Божага Слова з'яўляецца адказам на ініцыятыву шматлікіх вернікаў, якія даўно прасілі пра гэта. Ён нагадаў пра некаторыя важныя крокі, ужо зробленыя для адкрыцця багацця Божага слова: дагматычную канстытуцыю Другога Ватыканскага Сабора "Dei Verbum", Сінод Біскупаў, прысвечаны "Божаму Слову ў жыцці і місіі Касцёла", які прайшоў у 2009 годзе, а таксама Апостальскую адгартацыю Бэнэдыкта XVI "Verbum Domini".

Нядзеля Божага Слова будзе адзначацца ў перыяд, які заахвочвае да ўмацавання сувязі з юдзеямі і малітвы пра еднасць хрысціян. "Святое Пісанне ўказвае тым, хто яго слухае, шлях, якім трэба ісці, каб дасягнуць сапраўднай і моцнай еднасці", – напісаў Пантыфік.

Папа Францішак пажадаў, каб Нядзеля Божага Слова адзначалася ўрачыста. У літургіі можа адбывацца ўрачыстае ўнясенне Святога Пісання, чытанне Божага Слова, гаміліі могуць быць прысвечаны каштоўнасці Бібліі. У гэты дзень біскупы могуць прымаць у шэрагі лектараў або даручаць іншае падобнае служэнне, каб падкрэсліць важнасць абвяшчэння Божага Слова ў літургіі. Таксама і пробашчы могуць знайсці адпаведную форму, каб уручаць Біблію ці адну з яе кніг усёй парафіяльнай супольнасці, падкрэсліваючы важнасць штодзённага чытання Святога Пісання і малітвы ім, практыкавання "lectio divina".

Святы Айцец заўважыў, што Біблія не можа ўспрымацца ў якасці зборніка кніг, прызначанага для невялікай групы асоб. Ён папярэдзіў пра недапушчальнасць "манапалізацыі" святога тэксту.

"Біблія – гэта кніга народа Пана, які, слухаючы яе, пераходзіць ад рассейвання і падзелаў да адзінства. Божае Слова яднае вернікаў і робіць іх адным народам", – дадаў Папа.

Пантыфік звярнуў увагу на важнасць гамілій для тлумачэння Божага Слова. Трэба тлумачыць Святое Пісанне "простай мовай, адпаведнай тым, хто слухае". "Для многіх нашых вернікаў гэта адзіная магчымасць для пазнання прыгажосці Божага Слова, уседамлення яго сувязі са штодзённым жыццём. Нельга імправізаваць у каментаванні святых чытанняў. Мы, прапаведнікі, закліканыя не зацягваць празмерна гаміліі і не выкарыстоўваць у іх неналежных аргументаў", – нагадаў Францішак.

Спасылаючыся на евангельскі ўрывак пра сустрэчу Езуса з вучнямі, якая адбылася па дарозе ў Эммаус, Папа звярнуў увагу на неад'емную лучнасць Святога Пісання з Эўхарыстыяй. "Біблія – гэта не зборнік гістарычных кніг і не хроніка. Яна цалкам скіраваная на цэласнае збаўленне асобы", – заўважыў Пантыфік.

Францішак падкрэсліў важнасць адкрытасці на Святога Духа падчас чытання і інтэрпрэтацыі Бібліі, што неабходна, каб пазбегнуць фундаменталісцкага падыходу і не здрадзіць "натхнёнаму, дынамічнаму, духоўнаму характару, які мае святы тэкст". Трэба сілкавацца Божым Словам, каб глыбей перажываць адносіны з Богам і братамі, натхняцца ім для ўчынкаў міласэрнасці, – пераканаы Папа.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

**Наша пошта**

## Не хапіла любові?

Чаму ён упаў у такую роспач і з пятлёй на шыі ступіў у небыццё? Ні жонка, сур'ёзная, прыгожая жанчына, ні дзеці, якія так туліліся да яго, не ўтрымалі роднага чалавека ў той крытычны момант. А які ж чалавек быў! Працавіты, шчодры, гасцінны, адукаваны. Чырвоны дыплом і "паплавок" з каласамі гаспадара палёў застаўся ў шуфлядзе.



Жыццё – складаная рэч. Які ж цяжар насіў у сэрцы, што вырашыў пакласці сябе па сваёй волі ў зямліцу, якую так любіў? Нават гэты пляц, дзе ён пахаваны побач са старэнькай матуляй, сам у свой час пад могілкі адвёў. "Каб суха было, каб задуменны сасновы бор узвышаўся побач, каб дарога бясконца шумела ўнізе", – прамовіў неяк, пагладжваючы вусы.

Не хапіла любові... У кожнага з нас у патаемным куточку безабароннага сэрца тоіцца жаданне быць не знакамітым і багатым, а любімым. Рос паслухмяным сынам, быў дбайным гаспадаром, клапатлівым бацькам і мужам. У натоўпе прасьбітаў не стаяў і даравацаь, на жаль, не навучыўся. А яшчэ не засвоіў таямніцы веры пра Таго, Хто назірае за намі, усё пра нас ведае і кліча да вечнага жыцця.

Так, у кожнага свой крыж. Але Бог умее прабачаць, бо поўнае любові сэрца Яго. Я веру ў гэта і ўжо каторы год малюся за цябе, мой дарагі. Спадзяюся, што пачутымі будуць мае малітвы!

*Ганна*

# Шматтысячны марш сем'яў прайшоў украінскімі вуліцамі

**Тысячы сем'яў, духавенства і кансэкраваныя асобы прайшлі па вуліцах Вінніцы 22 верасня ў Эўхарыстычным маршы сем'яў.**

Шэсце адбылося на завяршэнне Усеўкраінскага кангрэсу сем'яў, які праходзіў з 20 па 22 верасня ў Шаргарадзе і Вінніцы пад лозунгам "Сям'я, моцная Богам". Кангрэс адбыўся ў межах Года Святасці сужэнства і сям'і, які праходзіць ў Рыма-каталіцкім Касцёле ва Украіне. Аднак у ім прынялі ўдзел не толькі католікі, але і прадстаўнікі іншых канфесій.

Да ўдзелу прыбылі сем'і з розных куткоў Украіны, прадстаўнікі розных канфесій і рэлігій.

Калі яны ішлі па цэнтральнай вуліцы горада з Найсвяцейшым Сакрамантам, усе разам маліліся, слухалі фрагменты Евангелля, прачытаныя ў кожнай з чатырох стацый, і слухалі кароткія разважанні біскупаў на тэму шлюбу.

Працэсія завяршылася ўрачыстай святой Імшой на гарадской плошчы, якую ўзначаліў арцыбіскуп Клаўдзё Гуджэроці, Апостальскі нунцый ва Украіне.

*Пераклад*
***Марыны Сінкевіч***
*з сайта credo.pro*



# У Магілёве прайшоў ІІІ Ружанцовы кангрэс

**5 кастрычніка ў катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Станіслава ў Магілёве адбыўся трэці Ружанцовы кангрэс.**

**Марына Сінкевіч,** *тэкст і фота*



Яго мэта – духоўная і інтэлектуальная фармацыя асоб, якія горача моляцца на ружанцы. Сёлетняя сустрэча прайшла пад дэвізам: "Маліцеся, калі маеце час, увесь Ружанец штодзённа, і ў гадзіну сваёй смерці вы будзеце благаслаўляць той дзень і тую хвіліну, калі мне паверылі" (Св. Людовік Грыньён дэ Манфор; Трактат, 254).

Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч шчыра прывітаў усіх, хто прыбыў на мерапрыемства з розных куткоў Беларусі.

Першым з дакладам "Паўната малітвы" (а. Яцэк Варанецкі OP) выступіў айцец Браніслаў Дашкевіч OP.

Пасля прагучаў даклад сястры Юліі Бугай OP "Каментарый св. Тамаша Аквінскага да Божых запаведзяў".

Як пракаментаваў даклад Мітрапаліт Кандрусевіч, манахіня "простай мовай "угрызла" навуку св. Тамаша, што не так лёгка". Божыя запаведзі – гэта шлях да нашага збаўлення. Як казаў св. Тамаш, каб "збавіцца – трэба верыць, жадаць і чыніць згодна з верай і жаданнем". Калі мы будзем верыць і жадаць, але нічога не рабіць, то нічога з гэтага не будзе.

Потым адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманта і ружанцовая малітва з бл. Фра Анджэліка.

Пасля абеду да сабраных звярнуўся айцец Марыюш Возьняк OP з дакладам "Трактат пра сапраўднае ўшанаванне Найсвяцейшай Панны Марыі" (св. Людовік Грыньён дэ Манфор).

Святар шмат увагі прысвяціў асобе св. Людовіка, чалавека, які жыў у часы, калі толькі адкрываліся семінарыі, калі Касцёл перажываў шмат цяжкасцяў. У гэты перыяд ён звярнуў увагу на набажэнствы да Найсвяцейшай Панны Марыі. Кожны святы з'яўляецца чалавекам свайго часу, але адначасова ён стаіць вышэй за гэты час. Св. Людовік мог жыць філасофіяй натоўпу, так як усе жылі, але супрацьстаяў і плыў супраць цячэння. Сёння яго ўспрымаюць як святога, каторы асаблівым чынам сам спраўляў Набажэнствы да Панны Марыі і апрацаваў шлях пашаны НПМ для іншых.

Апошнім свой даклад прадставіў айцец Марк Урбаноўскі OP "Евангельскія сюжэты ў карцінах бл. Фра Джаванні Анджэліка – дапамога ў ружанцовых разважаннях".

Гэтым разам з усімі дакладамі былі прэзентацыі кніг, якія айцы-дамінікане падрыхтавалі ў падарунак усім удзельнікам.

Кульмінацыйным момантам трэцяга Ружанцовага кангрэсу стала святая Імша, якую цэлебраваў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

# Ксёндз Валерый Марціноўскі, святар Віцебскай дыяцэзіі, абараніў доктарскую дысертацыю па біблійнай тэалогіі




Ксёндз доктар Валерый Марціноўскі са сваім навуковым кіраўніком ксндзом прафесарам Генрыхам Вітчыкам

**20 верасня ў Люблінскім каталіцкім універсітэце Яна Паўла ІІ абараніў доктарскую дысертацыю па біблійнай тэалогіі ксёндз Валерый Марціноўскі – святар Віцебскай дыяцэзіі, аўтар шэрагу матэрыялаў, апублікаваных на партале Catholic.by у рубрыцы "Цяжкія старонкі святога Пісання".**

**кс. Кірыл Бардонаў,** *тэкст і фота, Catholic.by*

Яго доктарская праца была напісана на тэму "Хрысціяне перад абліччам Дня Пана. Нарыс эсхаталагічнага парэнэзісу ў Пасланнях да Тэсаланікійцаў (1 Тэс 4, 13–18; 5, 1–11; 2 Тэс 2, 1–17)". Парэнэзіс – грэцкае слова, што азначае форму прамовы, якой прамоўца выказвае напамін або папярэджанне слухачам.

У сваёй дысертацыі аўтар перадусім засяродзіўся на душпастырскім вымярэнні эсхаталогіі Паўла, які абуджае надзею і паказвае яе канкрэтныя падставы, а таксама заахвочвае да актыўнага імкнення да збаўлення.

Навуковым кіраўніком працы быў кс. прафесар Генрых Вітчык, а рэцэнзентамі выступілі кс. прафесар Станіслаў Халас SCJ і кс. прафесар Славамір Стасяк.

У працэс даследавання былі ўключаны тры фрагменты з Першага паслання святога апостала Паўла да Тэсаланікійцаў (1 Тэс 4, 13–18; 5, 1–11; 2 Тэс 2, 1–17), у якіх сканцэнтравана эсхаталагічнае вучэнне апостала язычнікаў.

Праведзенае ксяндзом Валерыем Марціноўскім літаратурна-крытычнае даследаванне паказвала, што гэтыя апостальскія тэксты ўяўляюць сабой выразную эсхаталагічную інструкцыю, дадзеную Паўлам супольнасці Касцёла ў Тэсалоніках.

У выніку экзэгетычнага аналізу названых фрагментаў у дысертацыі было ўстаноўлена, што апостал Павел часта разглядае праблемы супольнасці з улікам прынцыпаў ці ведаў, засвоеных дзякуючы яго папярэдняму прапаведаванню. Гэта азначае, што адрасаты могуць зразумець сэнс паслання і патрабаванні, якія з яго вынікаюць, толькі ў святле раней абвешчанага Божага Слова – крыніцы іх навяртання з юдаізму і язычніцтва ў хрысціянства.

Тэалагічны аналіз фрагментаў паказаў, што, згодна з прапаведаваннем апостала Паўла, факт выбару і паклікання Богам ляжыць у аснове хрысціянскага існавання. Адказам на гэты заклік з'яўляецца вера, якая выражаецца ў навяртанні адрасатаў паслання ад ідалапаклонства ва ўсіх яго вымярэннях.

Ксёндз доктар Валерый Марціноўскі нарадзіўся 11 чэрвеня 1988 года ў Мёрах. У 2011 годзе паспяхова скончыў Міждыяцэзіяльную вышэйшую духоўную семінарыю імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску.

18 жніўня 2012 года арцыбіскупам Клаўдыё Гуджэроці пасвечаны ў прэзбітэры. Быў вікарыем катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску і адміністратарам парафіі Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гарадку. З 2014 па 2019 гг. навучаўся ў Люблінскім каталіцкім універсітэце Яна Паўла ІІ у дактарантуры (аспірантуры) Інстытута біблійных навук.

Цяпер з'яўляецца вікарыем парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах.

**Наша пошта**

# Не бульбай адзінай

Бацька памёр у пачатку верасня. Дзень быў сонечны і цёплы. Толькі выкапалі бульбу. Мяхі з багатым ураджаем стаялі пад паветкай.

У свае 83 гады стары на здароўе асабліва не скардзіўся, завіхаўся ў полі разам з сынам і дачкой, якія прыехалі з горада на дапамогу.

Маці, маладзейшая за бацьку на дзесяць гадоў, была яшчэ жвавая кабета. Накрыла на стол, паклікала ўсіх абедаць. Раптам спахапіліся, што няма гаспадара. А той ляжаў, раскінуўшы рукі, на мяхах з бульбай і ўжо не дыхаў.

Паплакалі, пагаравалі і пасля пахавання раз'ехаліся, дамовіўшыся сабрацца на трыццаць дзён. Сям'я не была надта ўжо набожнай, але традыцый прытрымліваліся, у касцёл на вялікія святы хадзілі, раз на год, перад Вялікаднем, стараліся паспавядацца.

Ахвяраваная на трыццаць дзён Імша па памерлым выпала на будні дзень, таму ў храме, акрамя родных, былі толькі дзве бабулькі. Сваякі нябожчыка сядзелі на пярэдніх лаўках і з прыкрасцю ўсведамлялі, што не ведаюць, як паводзіць сябе падчас набажэнства: калі ўстаць, калі ўкленчыць, калі перажагнацца. Давялося пад дакорлівым позіркам святара звярнуцца па дапамогу да бабулек.

З касцёла выходзілі, хаваючы вочы адзін ад аднаго. А тут яшчэ адна з кабет паўшчувала: "Гэта ж трэба, у Антонія, душы яго неба, такія дзеці і ўнукі нявыхаваныя, як у лесе раслі!"

Нечакана прыйшло разуменне, што жылі бязбожна, не запалілі ў сваіх сэрцах светач веры, не падмацоўвалі яго шчырай малітвай, маладушна адварочваліся ад думкі пра нечаканую смерць. Што не адзінай бульбай жывём мы на зямлі, што неабходна яшчэ пры жыцці клапаціцца пра хлеб духоўны.

– Ніколі больш не буду прапускаць заняткі па рэлігіі, – прашаптаў на вуха збянтэжанай бабулі дванаццацігадовы ўнук. Тая ціха плакала, туляючы да сябе хлопчыка.

*Нэля Лось,*
*м. Лынтупы*

# 30-ы навучальны год распачаўся ў Гродзенскай семінарыі

**30 верасня ўрачыстым актам інаўгурацыі навучальнага года Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне ўжо ў 30-ы раз прыняла маладых людзей, якія праз чалавечую, інтэлектуальную, духоўную і пастырскую фармацыю хочуць аддацца выключнаму служэнню Богу і Касцёлу.**

■ **Юрый Марціновіч**, *тэкст;* **Павел Леановіч,** *фота grodnensis.by*



На інаўгурацыю прыбыло шмат гасцей. Прысутнічалі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, святары, сёстры законныя, свецкія супрацоўнікі семінарыі, рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску кс. Андрэй Рылка.

Удзельнікаў урачыстай падзеі прывітаў рэктар семінарыі кс. Віталь Вайцяхоўскі, які адзначыў, што існаванне і функцыянаванне гэтай навучальнай установы ў канкрэтным асяроддзі нельга пераацаніць.

“Факт таго, што кожны год маладыя людзі прымаюць рашэнне распачаць фармацыю ў гэтай духоўнай навучальнай установе, сведчыць, што наша грамадства не страціла хрысціянскіх арыенціраў у жыцці”, – сказаў рэктар.

Паводле яго слоў, семінарыя з’яўляецца своеасаблівым маяком у жыцці супольнасці, указваючы бяспечны шлях падчас навальніц і штормаў, паказваючы кірунак, у якім трэба рухацца, калі нічога не бачна навокал.

Святар заклікаў сабраных, а таксама ўсіх людзей добрай волі далучыцца да семінарыйнай сям’і і будаваць яе сваёй прысутнасцю праз спасціганне навукі, перадачу ведаў, ахвяру ці малітву.

Затым кс. Ян Раманоўскі, прэфект семінарыі, прадставіў справаздачу за мінулы навучальны год, у якой адзначыў, што гэты час быў вельмі багаты на разнастайныя падзеі, якія спрыялі атрыманню ведаў, і на душпастырскія практыкі, каторыя праходзілі семінарысты.

Традыцыйна адбылася інаўгурацыйная лекцыя, з якой сёлета выступіў перад сабранымі кс. Валерый Марціноўскі, выкладчык Святога Пісання ў семінарыі, каторы не так даўно абараніў доктарскую дысертацыю ў Люблінскім каталіцкім універсітэце.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч у сваім слове звярнуў увагу, што семінарыя павінна быць духоўнай прасторай, якая захоўвае маладых людзей да поўнага распазнання свайго паклікання, умацавання ў ім і дасягнення адпаведнай сталасці. “Каб семінарыя змагла выканаць такую важную і адказную задачу, неабходна супрацоўніцтва ўсіх, хто стварае семінарыйную супольнасць: рэктара, прэфектаў, выхаваўцаў і мадэратараў, выкладчыкаў і духоўных айцоў, а таксама семінарыстаў, якія свядома і добраахвотна супрацоўнічаюць з выхаваўцамі ў духу паслухмянасці, сумленнасці, даверу і адказнасці за ўласнае пакліканне”, – дадаў іерарх.

Звяртаючыся да семінарыстаў, ён падкрэсліў, што перад імі чарговы год узрастання ў пакліканні, здабыцця ведаў і ўдасканалення практычных уменняў, чарговы этап шляху да святарства ў школе Хрыста.

“Будзьце адкрытымі на ўсё, што служыць вашай усебаковай семінарыйнай фармацыі, і ідзіце верна за Хрыстом, Які вас паклікаў да ўдзелу ў сваім святарстве”, – заахвоціў пастыр Касцёла на Гродзеншчыне.

На пачатку навучальнага года біскуп выказаў словы глыбокай удзячнасці найперш колу выхаваўцаў і выкладчыкаў на чале з рэктарам.

Цырымонія інаўгурацыі навучальнага года завяршылася ўручэннем заліковак навучэнцам першага курса, якія толькі пачынаюць вучобу ў семінарыі. Затым адбылася святая Імша ў семінарыйнай капліцы, якую ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

У гаміліі іерарх звярнуў увагу, што “нашы слабасці і недасканаласці не могуць быць прычынай адыходу ад Езуса, Які нас паклікаў да святарства і да выканання сваіх непасрэдных абавязкаў”.

“Трэба заўсёды памятаць, што святарства – гэта не прафесія, а пакліканне, – нагадаў арцыбіскуп семінарыстам. – Трэба памятаць і пра тое, што семінарыя – гэта не ўніверсітэт, дзе дастаткова здаць экзамены і не парушаць дысцыпліны, каб атрымаць дыплом і стаць спецыялістам у той ці іншай галіне гаспадаркі. Працэс падрыхтоўкі да святарства называецца не навучаннем, як ва ўніверсітэце, а фармацыяй, якая павінна быць усебаковай. А менавіта чалавечай, духоўнай, інтэлектуальнай і пастырскай. Касцёл, які мае вельмі багаты і шматвяковы досвед святарскай фармацыі, стараецца падрыхтаваць святароў, якія, паводле слоў Святога Айца Бэнэдыкта XVI, найперш павінны быць спецыялістамі ў сустрэчы чалавека з Богам згодна з выклікамі часу”.

Гэтая сустрэча, дадаў іерарх, “адбываецца праз удзел у сакрамантах і іншую дзейнасць Касцёла, але найперш праз абвяшчэнне Божага слова, бо вера ад слухання, як вучыць св. апостал Павел”.

Арцыбіскуп заахвоціў семінарыстаў не шкадаваць часу на пазнанне Бібліі – адной з крыніц нашай веры разам з традыцыяй, а таксама пажадаў, каб час фармацыі да святарства быў для іх адказам на пытанне: “Дзе наша сэрца?”, каб дзякуючы працэсу фармацыі яно было з Езусам.

Жадаем, каб Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне і ўсе, хто яе ўтварае, давяраліся Богу, каб ісці наперад і працягваць слаўныя традыцыі падрыхтоўкі новых працаўнікоў жніва Хрыстовага!

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч Віктар Мар’янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# У Глыбокім прайшла сустрэча катэхетаў



**8 кастрычніка ў парафіяльным доме імя кс. Юзафа Францкевіча пры касцёле Святой Тройцы прайшла сустрэча катэхетаў Віцебскай дыяцэзіі.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Мерапрыемства распачалося з супольнай малітвы. Потым усіх прывітаў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч.

У першай частцы сустрэчы выступіў спадар Юрый Юрчанка, які прэзентаваў распрацаваны гадавы катэхетычны курс паводле мультыплікацыйнага фільма "Суперкніга". Выступоўца распавёў, што ўлады камуністычнага Кітая не дазвалялі для дзяцей зрабіць хрысціянскі мультфільм, але гатовыя былі прыняць такі прадукт з умовай, калі героі будуць размаўляць менавіта цытатамі з Біблії. Гэта павінна была быць не мастацкая інтэрпрэтацыя, а заснаваны на Біблії сюжэты, каб вытрымлівалася міжканфесійная роўнасць, каб кожная з канфесій магла карыстацца гэтым. Ажыццявіць задуманае змагла хрысціянская місія "Міжнародныя хрысціянскія навіны".

У 90-х гадах XX ст. быў папулярны мультфільм "Суперкніга", а цяпер знялі новую, сучасную яго версію, у якой сюжэт з героямі чаргуецца з экскурсам у сучаснасць (цяперашні выгляд святынь і месцаў, геаграфія Ізраіля, інтэрактыўныя карты і г.д.). Як удакладніў выступоўца, мэта гэтай ідэі – прывесці дзяцей з вуліцы. Мультфільм зняты паводле Старога і Новага Запаветаў, а паводле яго распрацаваны гадавы курс – гэта сорак заняткаў.

Пасля кава-паўзы сястра Дар'я Галубкова OV нагадала пра II Конкурс на веданне Святога Пісання. Адбылося абмеркаванне пытанняў яго арганізацыі. Мяркуецца, што конкурс пройдзе ў нашай дыяцэзіі ў сакавіку-красавіку 2020 года. Матэрыялам для заданняў вызначана Кніга Зыходу. Нагадаем, што удзел у конкурсе могуць прымаць дзеці да чатырнаццаці гадоў уключна.

Пасля гэтага ўдзельнікі сустрэчы накіраваліся ў касцёл, дзе адбылася святая Імша для катэхетаў. Эўхарыстыю ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч у інтэнцыі ўсіх, хто ў Віцебскай дыяцэзіі займаецца справай катэхезы, каб добры Бог умацоўваў у гэтай важнай місіі прапаведавання Слова, каб яна была сапраўды здзейснена з вялікай адказнасцю і з Божым натхненнем.

"Мы, якім Езус даручыў адказнасць за евангелізацыю, павінны даваць гэтае Слова, павінны самі жыць гэтым Словам. Таму тым важным і цэнтральным момантам нашага спаткання ёсць Эўхарыстыя – сустрэча з Езусам Хрыстом", – падкрэсліў іерарх.



# У Навагрудку адбыўся канцэрт арганнай музыкі і творчы вечар з нагоды парафіяльнага фэсту

**28 верасня ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Навагрудку адбыўся дабрачынны канцэрт арганнай музыкі і вакальных выканаўцаў. Ён быў прымеркаваны да парафіяльнага фэсту ў гонар св. Міхала Арханёла і сабраў шмат гледачоў.**

**кс. Юрый Жэгарын**

На канцэрце прысутнічалі госці з Польшчы, а таксама з Санкт-Пецярбурга, Мінска, Гродна, Ліды, Шчучына, Мастоў, Іўя і іншых гарадоў. У праграме прагучалі традыцыйныя рэлігійныя і класічныя сусветныя творы Вівальдзі, Гайдна, Данаўдзі, Моргана, Брукнэра, Каваллі, Франка і іншых у выкананні лаўрэатаў міжнародных конкурсаў І. Данько (арганіст касцёла ў Радашковічах), К. Мядзведзевай (выкладчык музычнай акадэміі ў Мінску, канцэртмайстар), А. Міхневіча (арганіст касцёла св. Міхала Арханёла ў Навагрудку), Д. Апецянка (саліст сімфанічнага аркестра пры Маладзечанскім музычным каледжы) і В. Васюкевіча (саліст Узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь).

А ўжо ў нядзелю, 29 верасня, у парафіі Св. Міхала Арханёла ў Навагрудку прайшоў творчы вечар з нагоды святкавання патранальнай урачыстасці парафіі. Распачаў імпрэзу інструментальны музычны калектыў, які дзейнічае пры парафіі і які выступіў упершыню.

Прагучалі ўсім вядомыя класічныя творы, якія выконваліся на акустычных і бас-гітары, саксафоне, фартэпіяна і перкусіі.

Пасля выступу адбылася прэзентацыя кнігі кс. Тадэвуша Крыштопіка "Распазнаць дух антыхрыста", якая была выдадзена на рускай і польскай мовах у тэкставым і аўдыёфарматах. Аўтар выдання распавёў перадгісторыю напісання кнігі, растлумачыў біблійнае разуменне і значэнне антыхрыста, прадставіў, у чым перш за ўсё праяўляецца дух антыхрыста ў нашыя часы.

Прысутныя на вечары мелі магчымасць задаць свае пытанні і падыскутаваць. Пасля кс. Тадэвуш разам з гітарыстам выканаў свае новыя духоўныя песні. Навагрудчане мелі таксама магчымасць паслухаць класічныя творы ў прафесійным выкананні гітарыста Уладзіміра з Квасоўкі.

Пасля сустрэчы кожны атрымаў у дар дыск з апошнімі песнямі кс. Тадэвуша на розных мовах.

# Біскуп Алег Буткевіч прыняў удзел у фэсце ў гонар святога Лінаса

**Парафіяльнае свята ў імя святога Лінаса, якое штогод адзначаецца ў вёсцы Пеляса (Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць), 22 верасня, як заўсёды, сабрала сяброў з розных куткоў Беларусі і Літвы. Але адметнасцю яго сёлета стала прысутнасць біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча.**

Гэтая падзея ўжо даўно ператварылася ў сапраўднае свята літоўскай культуры, на якое прыязджаюць высокія дыпламатычныя госці, прадстаўнікі ўладаў дзвюх краін, каталіцкія святары.

Добраму настрою прысутных спрыялі вераснёўскае сонейка, выстава-продаж атрыбутыкі рэлігійнай тэматыкі. Да радасці дзятвы індывідуальныя прадпрымальнікі прадавалі пернікі і салодкія цукеркі ў выглядзе пеўнікаў ды розных кветачак.

Але галоўны акцэнт свята – урачыстае набажэнства ў касцёле Святога Лінаса, якое ўзначаліў біскуп Віцебскі. У велічным храме гучалі літоўская і беларуская мовы, панавала атмасфера еднасці і сяброўства. Велічным было і шэсце вернікаў у працэсіі вакол касцёла.

Святочны настрой панаваў у актавай зале Пеляскай сярэдняй школы з навучаннем на літоўскай мове, дзе і прадоўжылася ўрачыстасць. Прысутных сардэчна віталі амбасадар Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Андрус Пулокас, дырэктар дэпартамента Міністэрства замежных спраў Літоўскай Рэспублікі Марыюс Гудзінас, дарадца Консульства Літоўскай Рэспублікі ў горадзе Гродна Аўшра Кіркуцене, намеснік старшыні Воранаўскага райвыканкама Андрэй Карповіч і іншыя ганаровыя госці свята.

Вялікае задавальненне атрымалі прысутныя ад канцэрта, які наладзілі вучні і педагогі Пеляскай школы.

*Паводле матэрыялаў voran.by*



# Падарунак на дваццацігоддзе: Віцебская дыяцэзія мае двух новых святароў

**12 кастрычніка ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску біскуп Алег Буткевіч удзяліў сакрамант пасвячэння ў ступені прэзбітэрату дыяканам Уладзіславу Шарковічу і Алегу Зямчонку.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

На пасвячэнні прысутнічалі святары і кансэкраваныя асобы як з Віцебскай дыяцэзіі, так і з іншых месцаў нашай краіны, настаўнікі і выхавальнікі новапрэзбітэраў з духоўных семінарый, сябры і родныя.

10 кастрычніка 2009 года Яго Эксцэленцыя Марцін Відовіч, тагачасны Апостальскі нунцый у Беларусі, здзейсніў кансэкрацыю гэтай святыні як катэдральнага касцёла ў Віцебску. “Узгадваючы гэту падзею сёння, праз дзесяць гадоў, тут мы перажываем вялікую ўрачыстасць. Дзякуючы Пану Богу за гэты час існавання, просім Яго моцы Духа Святога перадусім для двух кандыдатаў, якія сёння атрымаюць святарскае пасвячэнне”, – прамовіў біскуп Алег. На самым пачатку іерарх адзначыў, што сёння асаблівая ўрачыстасць дзень не толькі для саміх кандыдатаў да святарства, але і для ўсёй Віцебскай дыяцэзіі, а таксама і ўсяго Каталіцкага Касцёла.

Напачатку дыяканы пацвердзілі сваю прысутнасць, пасля чаго рэктар Пінскай духоўнай семінарыі кс. Андрэй Рылка звярнуўся да пастыра дыяцэзіі з просьбай пра пасвячэнне новых святароў.

Сваё казанне біскуп Алег распачаў з развагі над тым, чым ёсць святарства. Гэта найпрыгажэйшае пакліканне, але і вялікая прыгода. Ісці за Хрыстом, быць знакам Яго прысутнасці і дзейнічаць як Хрыстос! Іерарх засяродзіў увагу на некалькіх галоўных пунктах: не разлічваць толькі на сябе, але дзяліцца Хрыстом і будаваць супольнасць, будаваць сваё святарства і паслугу, вучыцца даверу адно аднаму і Духу Святому, не дазваляць нікому, акрамя Хрыста, змяняць сябе, быць святлом і соллю для свету. У сваёй прамове ардынарый падзякаваў бацькам кандыдатаў, бо гэта дзень ахвяравання сваіх сыноў Богу.

Пасля гаміліі кандыдаты публічна выказалі сваю згоду атрымаць сакрамант святарства і далі клятву паслухмянасці біскупу.

Пасля апошняга адказу “Хачу з Божай дапамогай!” кандыдатаў на пытанне “Ці хочаш атрымаць гэты дар?” біскуп прамовіў: “Бог, Які распачаў у табе гэту справу, няхай Сам яе завершыць”. Пасля дыяканы Алег і Уладзіслаў ляглі крыжам перад алтаром, а ў касцёле святары і вернікі маліліся Літаніяй аб дарах Духа Святога для новых святароў.

Наступнай часткай Літургіі стаў абрад ускладання рук. Біскуп, а потым і ўсе святары па чарзе ўскладалі свае рукі на кандыдатаў. Затым адбылася кансэкрацыйная малітва, пасля чаго ўжо кс. Алег і кс. Уладзіслаў апранулі святарскае адзенне – стулу і арнат.

Пазней адбылося намашчэнне рук новапрэзбітэраў. Біскуп, а потым і ўсе святары прывіталі сваіх братоў знакам супакою.

У касцёле пачаўся абрад Эўхарыстыі, у якім кс. Алег і кс. Уладзіслаў упершыню прынялі ўдзел як святары.

Напрыканцы Імшы нованавысвечаныя святары дзякавалі Усемагутнаму Богу, Нябеснай Маці Марыі і сваім бацькам за гэты свой дар. Падзякі атрымалі біскуп Алег Буткевіч, настаўнікі і выхавальнікі семінарый, святары, якія дапамагалі ў распазнанні пакліканняў падчас духоўных і семінарыйных практык.

**Ксёндз Уладзіслаў Шарковіч** нарадзіўся 31 сакавіка 1995 года ў Мёрах у сям'і Валерыя і Тацяны. У 2012 годзе скончыў сярэднюю школу і паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю св. Тамаша Аквінскага ў Пінску. Паспяхова скончыўшы навучанне, 15 жніўня 2018 года, ва ўрачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, у касцёле ў Мёрах прыняў дыяканскае пасвячэнне з рук Яго Эксцэленцыі біскупа Алега Буткевіча. Дыяканскую практыку праходзіў у парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім. Згодна з дэкрэтам біскупа Віцебскага Алега Буткевіча, кс. Уладзіслаў Шарковіч накіраваны вікарыем у парафію Святой Тройцы ў Глыбокім.

**Ксёндз Алег Зямчонак** нарадзіўся 9 чэрвеня 1989 года ў Парыжы (Пастаўскі дэканат) у сям'і Люцыны. У 2007 годзе скончыў сярэднюю школу. Фармацыю праходзіў у духоўных семінарыях у Пінску і чатыры гады ў Санкт-Пецярбургу (Расія). 28 красавіка 2019 года, у свята Божай Міласэрнасці, у катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску прыняў дыяканскае пасвячэнне з рук Яго Эксцэленцыі біскупа Алега Буткевіча. Дыяканскую практыку праходзіў у катэдральнай парафіі ў Віцебску. Згодна з дэкрэтам біскупа Віцебскага Алега Буткевіча, кс. Алег Зямчонак накіраваны вікарыем у катэдральную парафію Езуса Міласэрнага ў Віцебску.







# Каляндар на лістапад



**Лістапад – гэта цудоўная магчымасць атуліць малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца. Калі мы верым, што разам са смерцю жыццё чалавека не заканчыцца, а толькі зменіцца, то мусім таксама ўсведамляць, наколькі вялікая наша адказнасць за памерлых. Мы ўжо не можам сустрэцца з імі фізічна, але маем магчымасць спаткацца ў знаку веры – у малітве, у святых Сакрамантах, ва ўчынках міласэрнасці для бліжніх.**

**1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.**



У гэты дзень успамінаюць не толькі тых, хто быў афіцыйна абвешчаны святым або блаславёным, але і невядомых нам святых. Можна сказаць, што першага лістапада ўшаноўваюцца адразу ўсе тыя, хто здабыў вечнае шчасце. Карані дня Усіх Святых ідуць у IV стагоддзе. Тады ў Антыёхіі ўшаноўвалі памяць шматлікіх пакутнікаў, імёны якіх не былі вядомыя. У 610 годзе, калі Папа Баніфацый IV атрымаў ад імператара Рымскай Імперыі старажытную язычніцкую святыню Пантэон, туды былі перанесены многія рэліквіі пакутнікаў. І гэты будынак асвяцілі як храм Маці Божай Пакутнікаў. З датай згаданай падзеі было звязана рымскае свята Усіх Святых. Спачатку ўшаноўваліся толькі Дзева Марыя і тыя, хто памёр за веру. У наступныя стагоддзі ўзнік культ "вызнаўцаў" – духоўных пакутнікаў. Таксама як пакутнік сваёю смерцю станавіўся сведкам Хрыста, так вызнаўца даваў сведчанне сваім жыццём. Гэтая ўрачыстасць з'яўляецца абавязковай.

**2 лістапада – успамін усіх памерлых вернікаў.**

У гэты дзень можна атрымаць поўны адпуст тым, хто наведае могілкі, а таксама выканае адпаведныя ўмовы: трэба быць пасля споведзі, прыняць Святую Камунію і



памаліцца ў інтэнцыі святога Айца.

**11 лістапада – успамін св. Марціна Турскага, біскупа.**



Святы нарадзіўся паміж 316 і 317 гг. у Панноніі (сучасн. Венгрыя) у сям'і язычнікаў і стаў вайскоўцам. Аднойчы на вуліцы св. Марцін убачыў жабрака, цела якога было толькі ледзь прыкрытае лахманамі, нягледзячы на холад. Малады вайсковец выцягнуў меч і, разрэзаўшы ім свой плашч, палову аддаў таму жабраку. Уначы святы ўбачыў Езуса, які быў захінуты ў палову яго плашча. Пад уражаннем ад убачанага ён пакінуў вайсковую службу і прысвяціў сябе служэнню Хрысту праз абвяшчэнне Божага Слова язычнікам. Сярод простых людзей святы карыстаўся папулярнасцю, і быў абраны на пасаду біскупа горада Тура. Але, стаўшы біскупам, ён вызначаўся ўбоствам і жыў не ў біскупскім палацы, а ва ўбогай пустэльні непадалёк ад горада. Памёр 8 лістапада 397 г. Ён з'яўляецца апекуном вайскоўцаў, краўцоў, бедных і жабракоў, а таксама хатняй жывёлы, асабліва коней і гусей. На свята ў яго гонар у многіх краінах смажаць традыцыйнага гусака.

**12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка, галоўнага апекуна Віцебскай дыяцэзіі.**



Знакаміты ўніяцкі дзеяч паходзіў з Уладзіміра Валынскага, з мяшчанскай сям'і. Нарадзіўся каля 1580 года. Юнаком па жаданні бацькоў накіраваўся ў Вільню, каб авалодаць прафесіяй купца. У Вільні ён сутыкнуўся з руплівымі духоўнікамі і ўключыўся ў інтэнсіўнае жыццё і справы маладой уніі. У 1604 годзе прыняў базыліянскі габіт, а пазней – пасвячэнні перадд'яканату і д'яканату. Адначасова распачаў тэалагічнае служэнне, а ў 1609 годзе прыняў святарскае пасвячэнне і быў прызначаны апекуном навіцыяту. Настаяцелі давяралі яму новыя, усё больш адказныя пасады і працу. У 1613 годзе ён быў прызначаны архімандрытам у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Вільні, а ў 1617-ым атрымаў прызначэнне на месца полацкага каад'ютара. 12 лістапада 1623 года быў забіты ў часе барацьбы паміж абаронцамі і праціўнікамі ўніі. Цела арцыбіскупа ўтапілі ў Дзвіне. Беатыфікацыю здзейсніў Папа Урбан VIII у 1642 г., а кананізацыю – Папа Пій XI у 1867 г. Рэліквіі, знойдзеныя ў 1916 годзе ў Бялай Падлясцы, былі перавезеныя ў Вену, а потым у базыліку св. Пятра ў Рыме, дзе і захоўваюцца.

**16 лістапада – успамін Маці Божай Вастрабрамскай.**

У кожнай хрысціянскай краіне ёсць абраз Маці Божай, які з'яўляецца сімвалам



абароны і заступніцтва народа. Вось і ў Літве ёсць ікона Маці Божай, якая ўшаноўваецца каталікамі і праваслаўнымі з асаблівай і глыбокай павагай. Гэты абраз знаходзіцца ў капліцы Вострай Брамы ў Вільні. Тут у Панны Марыі шукаюць суцяшэння не толькі мясцовыя жыхары, але і пілігрымы з многіх краін. Урачысты акт каранацыі абраза паводле дэкрэту Папы Пія XI быў здзейснены 2 ліпеня 1927 года Мітрапалітам Варшаўскім кардыналам Аляксандрам Какоўскім у прысутнасці ўсяго польскага епіскапату, Юзафа Пілсудскага і Прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага перад катэдральным саборам пад праліўным дажджом. Пасля каранацыі ў 1928 годзе абраз быў змешчаны ў капліцы ў адмысловым металічным кантэйнеры, які засцерагае яго ад пажараў і злодзеяў. Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні шануецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. Святочным днём ушанавання іконы лічыцца 16 лістапада. Штогод у перыяд святочнага тыдня здзяйсняюць паломніцтвы ў Вільню на свята Маці Божай Вастрабрамскай тысячы пілігрымаў.

**21 лістапада – успамін Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі.**



Успамінаем дзень ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Ерусалімскім храме Богу, згодна з абяцаннем, дадзеным праз бацькоў Багародзіцы. Паводле паданняў, якія бяруць пачатак у апокрыфах, калі Дзева Марыя ўпершыню была прыведзена ў храм бацькамі, ёй споўнілася толькі тры гады. У Ерусалімскім храме Марыя выхоўвалася да дванаццаці гадоў. Гэтае свята адзначалася на Усходзе ўжо ў VII стагоддзі ў гадавіну пасвячэння касцёла Маці Божай у Ерусаліме. У XI стагоддзі свята было прынята Заходнім Касцёлам. Сёння Касцёл успамінае перш за ўсё Ахвяру, якая адбылася ў душы Марыі ў пачатку Яе свядомага жыцця. Марыя з'яўляецца для ўсіх прыкладам жыцця, прысвечанага Богу.

**22 лістапада – успамін св. Цэцыліі, панны і мучаніцы.**



Святая нарадзілася на мяжы II і III стст. у сям'і рымскіх арыстакратаў. Паводле легенды, нягледзячы на дадзены ёю зарок чысціні, яе прымусілі выйсці замуж за язычніка Валяр'яна. Аднак Пан цудоўна збярог яе дзявочасць, і яна змагла навярнуць свайго мужа да хрысціянства і разам з ім загінула пакутніцкай смерцю праз адсячэнне галавы. Цела святой Цэцыліі было знойдзена ў катакомбах у 822 годзе і перанесена ў прысвечаную ёй базыліку за Тыбрам. Імя Святой Цэцыліі ўпамінаецца ў Рымскім Каноне. Яна – заступніца касцельнай музыкі, а таксама музыкантаў і спевакоў.

**24 лістапада – урачыстасць Пана Нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.**



Гэтая ўрачыстасць бярэ свой пачатак у 1925 годзе, калі Папа Пій XI энцыклікай "Quas primas" 11 снежня абвясціў Хрыста Валадаром Сусвету і зацвердзіў святкаванне ўрачыстасці на апошнюю нядзелю літургічнага года. Гэта былі асаблівыя часы, калі зямныя каралі трацілі ўладу, а людзі яе здабывалі. У такім становішчы Папа хацеў скіраваць сэрца чалавека да сапраўдных каштоўнасцяў і сканцэнтраваць яго на высакародных ідэалах. Ён нагадваў, што толькі Хрыстос – Альфа і Амега, пачатак і канец усяго, падкрэсліваючы іншасць Валадарства Хрыста.

⇨

## На лістапад прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**5 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*, **імяніны** адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**6 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**10 лістапада** – **імяніны** адзначае **кс. Леанід Мозгель** *(Дзеркаўшчына)*;

**11 лістапада** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*, **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**12 лістапада** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Віцебск)*, **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*;

**13 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**14 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль)*;

**19 лістапада** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Генадзій Ляўкоў** *(Дрысвяты)*;

**20 лістапада** – **дзень біскупскай сакры** адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**23 лістапада** – **імяніны** адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**30 лістапада** – **імяніны** адзначаюць **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*, **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, Дырэктар Карытас *(Віцебск)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры, Дзісна)*, **кс. Анджэй Юхневіч** *(Шуміліна)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***



⇨ Учора і сёння абвяшчаецца тая ж самая праўда пра тое, што Хрыстос – Валадар Любові. Ён хоча валадарыць у сэрцах людзей. Хоча, каб у свеце запанавалі Божы парадак, Божая праўда, справядлівасць і любоў.

**30 лістапада – Дзень св. Андрэя, апостала.**



Паходзіў з Бэтсаіды (Галілея). Быў братам Сымона-Пятра. Абодва яны былі рыбакамі і жылі ў Капернауме, на беразе Генісарэцкага возера. Згодна з Евангеллем паводле св. Яна, Андрэй спачатку належаў да супольнасці вучняў св. Яна Хрысціцеля, а потым па парадзе свайго настаўніка пайшоў за Езусам, узяўшы з сабою брата. Такім чынам Андрэй стаў першым вучнем Хрыста, і таму ва ўсходняй традыцыі яго называюць "Першазваным". 30 лістапада 60 года ў грэцкім горадзе Патрасе ён прыняў мучаніцкую смерць праз укрыжаванне: апостал быў прыбіты да крыжа ў форме літары "Х" – т. зв. крыжа св. Андрэя. У Сярэднявеччы яго рэлiквii трапiлi ў Амальфі, у Італію, і там спачываюць у катэдры св. Андрэя да сённяшняга дня, аточаныя вялікай пашанай. Пазней галава святога была перавезеная ў Рым, але ў 1964 г. Папа Павел VI вярнуў каштоўную рэліквію ў Патрас.

Дзень св. Андрэя з'яўляецца важнай датай у народным календары, з якой звязана шмат традыцый (напр., Андрэйкі). Святы – апякун рыбакоў, плыўцоў, добрага сужэнства і дзяцей.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***



**Святыя – людзі, якія больш за ўсё ў жыцці любілі Госпада. Хто такія святыя і як далучаюцца да іх ліку? Ва ўрачыстасць Усіх Святых прапануем Вам праверыць свае веды пра святых у Новым тэсце Каталіцкага Весніка.**

**1** Урачыстасць Усіх Святых адзначаецца ў Каталіцкім Касцёле:



**А.** 1 кастрычніка
**Б.** 1 лістапада
**В.** 2 лістапада

**2** Пазнай святую. Маладая жанчына, якая, прагнучы захаваць чыстасць і вернасць Хрысту, прыняла мучаніцкую смерць у Катаніі, на Сіцыліі, каля 250 г. Праз год малітва гэтай святой уратавала ад вывяржэння вулкана Этна. У дзень яе ўспаміну ў касцёле асвячаецца хлеб, вада і студні. Яна лічыцца заступніцай ад пажараў, навадненняў і іншых стыхійных бедстваў.



**А.** Святая Клара
**Б.** Святая Моніка
**В.** Святая Агата

**3** Пазнай святога. Першы, хто прыняў мучаніцкую смерць за Хрыста, якая апісана ў Дзеях Апосталаў (Дзеі 6, 1-8, 3). Ён быў дыяканам і адным з сямярых памочнікаў апосталаў у ерусалімскім Касцёле.



**А.** Святы Стэфан
**Б.** Святы Блажэй
**В.** Святы Вацлаў

**4** Пазнай святую. Нараджаная на мяжы II і III стст. у сям'і рымскіх арыстакратаў, у маладым узросце склала шлюб чыстасці. За веру ў Хрыста ёй тройчы спрабавалі адсекчы галаву, але святая памерла толькі праз тры дні ад атрыманых ранаў. Яна праслаўляла Бога спевам і ігрою на музычных інструментах, лічыцца апякункаю касцельнай музыкі і спеваў, а таксама музыкантаў і спевакоў.



**А.** Святая Гертруда
**Б.** Святая Барбара
**В.** Святая Цэцылія

**5** Пазнай святога. Святы біскуп з італьянскага горада Тэрні, які лічыцца апекуном добрага сужэнства. Яго заступніцтва просяць таксама пры эпілепсіі і пры частых стратах прытомнасці. Успамін святкуецца 14 лютага.



**А.** Святы Баніфацый
**Б.** Святы Лазар
**В.** Святы Валянцін

**6** Пазнай святую. Нарадзілася ў Асізі, сябравала са св. Францішкам і па яго прыкладзе пажадала наследаваць Хрыста ў чыстасці і

## Святыя

ўбостве, стварыўшы сваю манаскую супольнасць. Яна з'яўляецца апякункаю тэлебачання, праз яе заступніцтва просяць дапамогі пры хваробах вачэй і слепаце.



**А.** Святая Клара
**Б.** Святая Кінга
**В.** Святая Ядвіга

**7** Пазнай святога. Па прафесіі ён быў лекарам, а па пакліканні – біскупам Себастыі. Касцёл ушаноўвае яго 3 лютага, а на працягу ўсяго года яго заступніцтва просяць тыя, хто пакутуе на хваробу горла.



**А.** Святы Элігій
**Б.** Святы Блажэй
**В.** Святы Патрык

**8** Пазнай святую. Яе імя перакладаецца як "святло". Яна была забітая ў Сіракузах падчас пераследу хрысціянаў у часы імператара Дыяклецыяна. Яе культ распаўсюдзіўся ва ўсім Касцёле, а яе імя ўзгадваецца ў Рымскім каноне і Эўхарыстычнай малітве. Святая з'яўляецца заступніцай сляпых і хворых на вочы, а таксама хворых дзяцей.



**А.** Святая Рыта
**Б.** Свята Люцыя
**В.** Святая Тэрэза

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

*Правільныя адказы глядзіце на старонцы 12*

# Яшчэ тры дзіцячыя цэнтры “Caritas” адкрылі ў Віцебскай дыяцэзіі



**Дзякуючы праекту “Утварэнне і функцыянаванне інтэграцыйных святліц для дзяцей у Беларусі”, рэалізаванаму празы “Caritas Polska” і праграму “Польская дапамога” Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча ў 2019 годзе ў Віцебскай дыяцэзіі адкрыліся тры новыя святліцы: пры катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску, а таксама ў Браславе і Глыбокім.**

■ **с. Дар’я Галубкова**, *тэкст, фота;* **Леанід Юрык**, *фота*

У памяшканнях праведзены рамонт, закуплены неабходнае абсталяванне, тэхніка, мэбля, посуд, канцтавары, матэрыялы для заняткаў.

Сястра Дар’я Галубкова, якая займаецца такімі праектамі ў Віцебскай дыяцэзіі, выказала падзяку ўсім партнёрам і ахвярадаўцам, без каторых гэты праект быў бы немагчымы, і адзначыла, што святліца прызначаная не толькі для катэхезы, але і для іншых заняткаў, у тым ліку інтэграцыйных, куды змогуць прыходзіць дзеці з інваліднасцю, дзеці, пазбаўленыя бацькоўскай апекі, але і не толькі.

Святліцы ўжо працуюць з верасня, а з дзецьмі займаюцца мясцовыя выхавальнікі і валанцёры, якія прайшлі адмысловую падрыхтоўку. Заняткі вельмі разнастайныя: ад музыкі да кулінарыі. Напрыклад, у Віцебску праходзяць заняткі па інклюзіўных танцах. Таксама праводзіцца катэхеза, ёсць магчымасць зрабіць хатняе заданне, пагуляць, магчымасць інтэграцыі дзяцей паміж сабой. У святліцах пануе дамашняя атмасфера.

Нагадаем, што ў мінулым годзе падобныя дзіцячыя цэнтры “Caritas” былі адкрытыя ў Лепелі і Мёрах.

Дырэктар “Caritas” Віцебскай дыяцэзіі кс. Андрэй Аніскевіч адзначае, што дадзеныя святліцы створаныя для таго, каб дзеці маглі прыходзіць сюды пасля школы, пабыць разам, каб маглі адчуць сябе як дома (для гэтага зроблена кухня), каб ім было тут утульна.

Праект фінансаваны ў межах праграмы супрацоўніцтва дзеля развіцця Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча.



# Хто, як не Бог?!

## У Варапаеве адзначылі парафіяльны адпуст

**Адбылося гэта ў нядзелю, 29 верасня, калі Касцёл адзначае ўрачыстасць святога Міхала Арханёла. Менавіта такі тытул мае Варапаеўская парафія. Дарэчы, святы лічыцца таксама і нябесным заступнікам Беларусі.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Святая Імша распачалася а 10 гадзіне. На яе прыбылі кс. Павел Самсонаў – дэкан Пастаўскі, кс. Ян Пугачоў – дэкан Шаркаўшчынскі, кс. Эдуард Сінкевіч SCJ – вікарый з Паставаў, кс. Валерый Марціноўскі, які нядаўна скончыў вучобу ў Польшчы і абараніў доктарскую працу, вернікі з Паставаў, Глыбокага, Лынтупаў, Мінска. Сваім спевам набажэнства ўпрыгожыў хор Ave Maria з Глыбокага.

На пачатку Імшы ўсіх святароў і вернікаў прывітаў пробашч парафіі кс. Ежы Вільк SCJ. Ён адзначыў, што фэст – гэта тое, што мы перажываем у сваім сэрцы. Галоўным з’яўляецца ўдзел у святой Імшы, споведзь, паяднанне з жывым Езусам у Камуніі. Усё астатняе, што звязана з фэстам, таксама важна, але не з’яўляецца самым галоўным.

Кс. Ежы папрасіў кс. Валерыя Марціноўскага правесці цэлебрацыю святой Імшы. Ксёндз Валерый прамовіў таксама і слова да вернікаў. У ім ён звярнуў увагу на выраз, звязаны з імем Міхала Арханёла: “Хто, як не Бог?!” Гэтыя ж словы змешчаныя не толькі на галоўным алтары, але і перад уваходам у святыню.

Святар адзначыў, што калі Бог з намі, то хто супраць нас? Свет змяняецца, змяняюцца пакаленні, а Бог той самы. І Ён нас па-ранейшаму любіць. А чалавек таксама не можа існаваць без любові. Нам яна патрэбная, як паветра. Мы хочам любіць і хочам, каб нас любілі. Таму галоўным падмуркам нашага жыцця павінна быць любоў да Бога і да бліжняга.

Мы часта адкладаем сваё навяртанне назаўтра, на панядзелак, – падкрэсліў кс. Валерый, – а пачынаць трэба ўжо сёння, ужо зараз:

– Бо заўтра чалавек мае такія самыя клопаты. І калі сёння ты не прасякнуў любоўю, калі сёння не стаяў перад Богам на каленях, калі Яго не шукаў, то і заўтра не станеш гэтага рабіць. Калі мы трацім боязь Бога, а гэта дар Духа Святога, то тады пачынаем усяго баяцца і верыць у розныя забабоны. Таму трэба верыць Богу, трэба любіць Яму, давяраць Яму, і калі з намі Бог, то мы непераможныя!



Пасля гаміліі адбылася працэсія з дарамі. Святарам паднеслі кветкі як сімвал прыгажосці зямлі, дары сёлетняга ўраджаю, а таксама хлеб, віно і ваду, якія выкарыстоўваюцца пры Эўхарыстыі. Потым усе разам прачыталі малітву да святога Міхала Арханёла як знак таго, што мы ўсе прыносім сябе ў ахвяру Богу праз заступніцтва гэтага святога.

Пасля таго, як вернікі прынялі святую Камунію, да ўсіх са словамі падзякі звярнуўся пробашч парафіі. Ксёндз Ежы адзначыў, што толькі ў касцёле мы знаходзім надзею, веру і любоў. Ён падзякаваў святарам, парафіянам і гасцям за прысутнасць на ўрачыстасці.

Пазней вернікі памаліліся Літаніяй да святога Міхала Арханёла, адбылася працэсія вакол святыні. Дарэчы, падчас працэсіі перастаў ісці дождж. А як толькі працэсія закончылася, зноў распачалася асенняя непагадзь.

Пасля блаславення хор выканаў гімн “Магутны Божа”.

Але сама ўрачыстасць гэтым не скончылася. Вернікаў чакаў яшчэ канцэрт, які падрыхтавалі хор “Ave Maria” і яго кіраўнік Ганна Шакола. Трэба адзначыць, што Варапаеўская парафія не з’яўляецца для спадарыні Ганны чужой: яна тут нарадзілася, тут жылі яе бацькі, якія дапамагалі ў будаўніцтве мясцовай святыні.

Хор выканаў песні, якія былі напісаныя на словы тутэйшых паэтаў. Музыку да іх напісала Ганна Шакола. Мяркуючы па гучных апладысментах, выступ хору вельмі спадабаўся вернікам.

# Белорусский иезуит на Филиппинах:
# “То, что проще, – лучше”

**Третья пробация – это последний этап иезуитской формации, к которому члены Общества Иисуса приступают спустя несколько лет после рукоположения или, в случае братьев, после некоторого периода полноценного служения.**

**о. Виктор Жук SJ**, *текст и фото, jesuit.ru*

В это время иезуиты вновь проходят испытания, уже пройденные в новициате и на других этапах, цель которых – получить “живой опыт” различных измерений иезуитского призвания. Отец Виктор Жук SJ в настоящее время находится на третьей пробации в Маниле. Делимся его рассказом об одном из испытаний в бедном квартале филиппинской столицы.

Часть третьей пробации в Маниле – это недельный опыт проживания в одном из бедных кварталов метрополии, где нас по одному иезуиту приняли местные семьи. Последние конгрегации Общества Иисуса настаивают на том, чтобы у иезуитов был непосредственный контакт с бедными людьми, которым мы призваны служить и от которых должны учиться жить скромно. Этот опыт действительно произвел сильное впечатление.

Начну с того, что, пожалуй, поражает больше всего: те, кто находятся в этих условиях, казалось бы, должны быть угрюмыми, мрачными, обозлёнными на жизнь. И тем не менее, они способны (кажется, даже больше, чем многие другие) улыбаться, радоваться, играть, быть приветливыми в общении… Некоторые семьи реально не имеют средств больше, чем на пропитание на ближайшие несколько дней. Понятие удобств и личного пространства очень сильно ограничено – и дома, и на улицах, в общественных местах.

Примечательная черта стиля жизни людей здесь – это использование мелких одноразовых пакетиков, в которых продается почти всё: кофе “3 в 1”, порция растительного масла для приготовления обеда, шампунь, даже зубная паста… Это обусловлено соображениями и экономии денег (которая, конечно же, сомнительна, однако семейный бюджет просто не позволяет покупать большие упаковки), и пространства, которое каждая семья также вынуждена строго экономить.

Естественно, встаёт вопрос об отходах: здесь он более очевиден, чем для большинства жителей метрополий, чей мусор соответствующие службы старательно вывозят подальше от их глаз. Наш же район – это место бывшей огромной свалки (которая теперь покрыта землёй, и на этой “дымящейся горе”, как её называют до сих пор, нелегально строят хижины и даже занимаются сельским хозяйством). Мусор в Тондо везде – и на лестничных площадках, и под ногами на улицах, и в реке. Часть жителей района занимаются переработкой мусора, зарабатывая таким образом гроши.

Семья, в которой я жил, была не из самых бедных: родителям помогает дочь, которая смогла уехать из этого квартала. Самые же бедные питаются “пагпаг” – переработанными пищевыми отходами из ресторанов. Такую “еду” здесь продают и покупают. Конечно, рассказы о подобном просто шокируют.

Хотя детский труд запрещён, фактически многим детям приходится подрабатывать, чтобы пополнить семейный бюджет. Неправительственные организации очень правильно стараются в первую очередь помочь семьям дать образование детям – это надежда на лучшее будущее, противоядие от бесперспективности как одного из тяжелейших аспектов бедности. Надежда – наверное, главная и столь необходимая добродетель здешних жителей, вместе с упованием, что сегодня и завтра Кто-то позаботится о семье. Каким-то образом с таким отношением связана взаимопомощь и щедрость: в этом я смог убедиться на собственном опыте, поражаясь тому, как бедные люди готовы разделить то немногое, что у них есть. Конечно, здесь сложно обобщать: люди везде разные. И тем более мне не хочется идеализировать или облекать в романтическую оболочку тот образ жизни, который приходится вести жителям острова Балут в Тондо. Однако положение этих и миллионов других людей, живущих в подобных условиях, заставляет сильно задуматься над тем образом жизни, который мы чаще всего молчаливо воспринимаем как само собой разумеющийся. Образ жизни, в центре которого находится потребление и жажда удобств.

Это не обвинения ни в чей адрес: опыт Тондо помог мне осознать, что я – первый из тех, кто нуждается в том “обращении”, которое предполагает данный мною обет бедности и к которому настоятельно призывает меня Институт моего ордена. За эти несколько дней, проведенных в Тондо, я неоднократно ловил себя на том, что разум ищет “эффективных” путей выхода из сложившегося положения вещей, но постепенно понимал, что всё должно начаться именно с обращения.

Не скрою, однако, что увиденное в Тондо не так легко связать с представлением о “евангельской бедности”. Провозглашая блаженными (или иначе “счастливыми”) бедных, Господь Иисус наверняка не желал, чтобы люди продолжали жить в условиях, противоречащих человеческому достоинству. Наверное, Христос также не имел в виду, что, находясь в неблагоприятных условиях, они вырабатывают особые качества – такие, как приспосабливаемость, прочность, сопротивляемость или в конце концов нечувствительность к бактериям и неприятным запахам. В чем же тогда преимущество бедных с точки зрения Евангелия?



Мама-бабушка Адора, её сын и внуки

Ответ прост: нищие (“anawim”, как звучит это слово в оригинале в Ветхом Завете) – первые, на кого указывает Господь Бог, потому что им больше не на кого уповать. Упование только на Бога – основное измерение того блаженства, которое звучит немного по-разному у Луки и Матфея, и, кажется, именно этот духовный аспект хотел подчеркнуть автор первого Евангелия, добавляя определение “нищие духом”. Однако это важнейшее измерение отношений с Богом может остаться умозрительным, если у нас нет возможности по-настоящему, материально ощутить, как Бог проявляет заботу о наших основных нуждах.

Для иезуитов стремление почувствовать Божью заботу воплощено в примере святого Игнатия: в своих паломничествах он доходил до крайностей на грани здравого смысла, не желая иметь никаких человеческих гарантий касательно пропитания и крова над головой, которые могли ему помешать уповать только на Бога. Если в нашей жизни нет пространства для подобного, пусть не столь радикального опыта, наше знание о Божьем Провидении рискует остаться лишь теоретическим. Необходимое условие для того, чтобы стать причастными к этому опыту, – принятие той простоты, о которой говорит Иисус, приглашая смотреть на натуральную красоту полевых лилий, о которых заботится Бог.

“Simpler is better” (то, что проще – лучше) – эти слова Папы Франциска были написаны на футболке одного из моих собратьев, и это тот принцип, о котором очень полезно чаще вспоминать нам, погружённым в изобилие всевозможных приспособлений и гаджетов, которые приукрашивают нашу жизнь, но в то же время рискуют заслонить самое важное.

Невозможно исчерпать эту тему на нескольких страницах. “Нищие всегда будут с вами” (Ин 12, 8) – эти слова Иисуса звучат отнюдь не как оправдание того, что нищета – неизбежная проблема человеческого общества, а скорее как постоянный вызов для нашей человечности, как призыв к солидарности, к готовности разделить наши ресурсы, даже если нам кажется, что мы сами небогаты. О встрече с самим Иисусом в лице бедного и нуждающегося недвусмысленно говорит Господь в притче о суде (Мф 25, 31-45). Присутствие самого Христа в бедных – это та тайна, которую нам предстоит раскрывать и углублять в течение всей жизни, подобно иным тайнам веры. В то же время, это великий шанс для нас – оказать услугу Царю вечности в скромном обличии. Иногда мы предпочитаем безличное пожертвование личному разговору с кем-то, кто находится далеко от нас на социальной лестнице. Может быть, Господь ждёт, чтобы вы и я в следующий раз не побоялись такой беседы. Контакт с бедными напоминает каждому из нас о нашей собственной нужде, о нашей нищете, когда мы закрыты в своём собственном мире, отрезаны от спасительной благодати.

Благодаря опыту в Тондо я лучше понял, как сильно прав Папа Франциск, который желает Церковь бедную в евангельском смысле, Церковь для бедных: иначе она просто теряет связь с самой своей сущностью. С другой стороны, более чем актуальным звучало для меня напоминание в течение сентября об ответственности за Творение, вверенной нам, людям: немой крик реки Витас (сколь символичное название!) об этом доносился до меня при каждом моем взгляде на неё.

Господи! Дай нам услышать Твой призыв, который доносится до нас от нуждающегося ближнего и нуждающейся Матери Земли!




Bahay на языке тагалог значит “дом”. Нелегальным жителям Smokey mountain приходится носить воду — водопровода здесь нет. Но в некоторые дома проведено (по всей видимости, полулегально) электричество.

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем **ксяндза Лешэка Вітвіцкага**, які 22 кастрычніка адзначае Дзень нараджэння, і шчыра дзякуем яму за працу ў Браслаўскай парафіі.*

*Шаноўны ксёндз Лешэк, прыміце нашы шчырыя пажаданні добрага здароўя, сіл і цярпення, душэўнага супакою. Няхай Пан Бог адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі!*

***З павагай, удзельнікі ружанцовай групы "Ружанец яднання ў цярпенні з Хрыстом"***



# Калі нехта моліцца на ружанцы, д'ябал злуецца

## (сведчанне былога сатаніста)

**"Калі нехта моліцца на ружанцы, д'ябал злуецца!" – кажа чалавек, які правёў чатыры доўгія і змрочныя гады ў сатанінскай секце.**

Дэвід Арыяс нарадзіўся у Мехіка, але ва ўзросце шаснаццаці гадоў ён пераехаў у Каліфорнію. Там праз школьных сяброў ён трапіў у пастку знакамітай акультнай гульні "ўіджа" ("oiujay"), і сябры намовілі яго выкарыстоўваць гэтую дошку для акультных практык на могілках, для кантактаў з дэманамі.

Хоць хлопчык і вырас у сям'і каталіцкай культуры, ён распавядае, што часта сварыўся з бацькамі і сваякамі і характарызуе сябе як "неспакойнага духам".

Праз слабае ўмацаванне веры новыя аднакласнікі Дэвіда лёгка ўгаварылі яго ўдзельнічаць у таемных забавах, якія суправаджаліся ўсякай сексуальнай разбэшчанасцю і бесперашкодным ужываннем алкаголю і наркотыкаў.

Неўзабаве яго запрасілі ў закрытую суполку, якая сама сябе называла "касцёлам д'ябла". У гэтую групу ўваходзілі людзі розных сацыяльных пластоў грамадства, розных нацыянальнасцей і розных узростаў, пачынаючы ад тых, хто проста апранаўся ў чорны колер і фарбаваў вочы і вусны ў чорны колер, і заканчваючы тымі, пра каго Дэвід казаў, што "выглядаюць як ўлада" – урачы, юрысты, інжынеры…

У шаснаццаць гадоў Дэвід належаў да самых маладых удзельнікаў групы. Група імкнулася абысці паліцыю і пагражала смерцю кожнаму чальцу суполкі, які раскрые інфармацыю пра іх сакрэтныя ўнутраныя практыкі.

Дэвід правёў чатыры доўгія гады ў гэтай секце. Гэтая, як ён сам акрэсліў, "унутраная пустэча" прымусіла яго адмовіцца ад такога змрочнага ладу жыцця і вярнуцца да Бога і сваёй каталіцкай веры.

Пасля свайго навяртання Дэвід ажаніўся, у яго нарадзіліся дзеці, ён пачаў актыўна ўдзельнічаць у жыцці парафіі, дзяліцца сваім змрочным досведам, асабліва сярод каліфарнійскай іспанамоўнай супольнасці.

Сёння Дэвід Арыяс заклікае бацькоў быць больш уважлівымі да сваіх дзяцей, "якія маюць вельмі лёгкі доступ да многіх небяспечных рэчаў".

Былы сатаніст раіць удзельнічаць у святой Імшы, рэгулярна спавядацца і маліцца на ружанцы. Ён падкрэслівае: "Ружанец мае вялікую сілу! Калі нехта моліцца на ружанцы, д'ябал злуецца!"

*Пераклад*
***Вікторыі Колзун,***
*catholicnews.by*

*Паводле aleteia.org*

### Хвала Хрысту!



*Паважаны пробашч **айцец Андрэй Букштан**!*

*Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды Вашага Дня нараджэння (24 кастрычніка)!*

*Дзякуем за Вашае аддане служэнне Касцёлу, за мудрыя і павучальныя казанні, якія кранаюць нашы сэрцы. Дзякуем Вам за жаданне дапамагчы людзям знайсці дарогу да Бога.*

*Сардэчна жадаем Вам, дарагі айцец Андрэй, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш шчырых і адкрытых людскіх сэрцаў! Няхай заўсёды будзе ў Вас моцнае здароўе і добры настрой! Жадаем Вам дапамогі Пана Бога і апекі Маці Божай на доўгія гады святарскага служэння!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў г. Докшыцы***

# Не бойся цішыні

Часам можам заўважыць людзей, якія шукаюць самоты, пустыні, дзе няма ні радыё, ні музыкі, ні шуму. Яны не размаўляюць, не моляцца гучна, не чытаюць кніг або газет, не пішуць, не займаюцца нічым. Яны проста "паглыбляюцца ў сябе". Не каб аналізаваць, планаваць, а проста быць.

Яны хочуць "знайсці сябе" ў цішыні, дасягнуць пэўнага сінтэзу, інтэграцыі, яны хочуць зноў адкрыць сябе ў адзінстве думкі і волі, разумення і любові, якія выходзяць далёка за межы слоў, за межы аналізу, нават за межы свядомасці. Яны хочуць маліцца не вуснамі, а маўчаннем сваіх сэрцаў, чымсьці, што пераўзыходзіць іх – самой падставай іх існавання. Што заахвочвае сучасных людзей заняцца гэтай практыкай? Ці з'яўляецца іх матывацыя чалавечай патрэбай у цішыні, рэфлексіі, унутраным пошукам? Ці жадаюць яны хоць крыху адпачыць ад актыўнасці і напружання сучаснага жыцця? Гэта, безумоўна, важныя прычыны, але для хрысціяніна матывы яшчэ глыбейшыя, чым згаданыя вышэй.

Хрысціянін можа ўсвядоміць, што Бог заклікае яго перажыць цішыню, паразважаць, медытаваць і "слухаць Яго". Магчыма, мы занадта шмат размаўляем, занадта актыўныя ў нашым разуменні хрысціянскага жыцця. Наша служэнне Богу і Касцёлу заключаецца не толькі ў тым, каб гаварыць і дзейнічаць. Гэта таксама можа заключацца ў тым, каб быць у цішыні – слухаць і чакаць. Магчыма, для нашай эпохі гвалту і трывогі вельмі важна зноў адкрыць для сябе медытацыю – ціхую, унутраную, якая аб'ядноўвае малітву і творчае хрысціянскае маўчанне.

Цішыня мае шмат вымярэнняў. Гэта можа быць пераасэнсаванне і ўцёкі, прысутнасць, усведамленне, адзінства і самаадкрыццё. Праз негатыўнае маўчанне мы спрабуем душыць наш неспакой. Пазітыўнае маўчанне мае на ўвазе дысцыпліну выбару, мужнасць. Творчае маўчанне патрабуе веры. Калі мы сустракаемся тварам у твар з сабою ў адзіноце, то сутыкаемся са шматлікімі пытаннямі пра каштоўнасць нашага існавання, нашай праўдзівасці ў штодзённым жыцці.

Ці даём мы сабе магчымасць дакрануцца да чагосьці больш глыбокага? Ці можам супрацьстаяць таму факту, што, магчыма, мы не зацікаўленыя ва ўсёй гэтай мітусні? Калі мы маўчым не толькі на працягу некалькіх хвілін, але цягам гадзіны або некалькіх гадзін, то можам адчуць неспакой. Але толькі ў цішыні мы можам прыйсці да згоды з унутраным "я". У цішыні можам прызнацца і ўстаць перад тварам прорвы паміж глыбінёй нашага існавання і яго паверхняй.

Калі мы баімся цішыні, то гэта можа быць звязана з нашым недахопам надзеі на ўнутранае прымірэнне. Калі нам не хапае надзеі прымірыцца з самімі сабой у нашай ўнутранай адзіноце і цішыні, то мы ніколі не зможам дасягнуць праўду пра сябе: мы заўсёды будзем уцякаць і ніколі не спынімся. І гэтыя ўцёкі ад самога сябе, як кажа швейцарскі філосаф Макс Пікард, – "ўцёкі ад Бога". Дарэчы, Бог гаворыць глыбока ў нашым сумленні. Гэтая адмова слухаць Бога з'яўляецца частковым прызнаннем таго, што мы не хочам, каб Бог быў Богам, гэтак жа, як мы не хочам быць самімі сабой.

Калі мы жывём павярхоўна, тады адкрываем, што робім шмат рэчаў, якія на самай справе не хочам рабіць; што мы гаворым тое, што не хочам гаварыць; мы хочам таго, што нам насамрэч не патрэбна; што мы трацім сваю энергію на рэчы бессэнсоўныя. "Навошта вам наважваць срэбра за тое, што не ёсць хлебам, і заробак свой за тое, што не насычае?" (Іс 55, 2).

Галоўная задача злога – не дапусціць нас да глыбокай сустрэчы з нашым сапраўдным унутраным "я" і з сапраўдным Богам. Менавіта таму цішыня і маўчанне важныя ў жыцці веры, а таксама ў нашай глыбокай сустрэчы з Богам. Мы не можам пастаянна размаўляць, гучна маліцца, разважаць або фонам слухаць пабожную музыку. Чыстая вера павінна быць выпрабавана ў цішыні, у якой мы пачуем нечаканае, у якой мы адкрыем для таго, чаго мы яшчэ не ведаем, і ў якой мы павольна і паступова рыхтуемся да дня нашага ўваходу на іншы ўзровень жыцця з Богам. Праўдзівая надзея працуе ў цішыні, у якой мы павінны чакаць Госпада ў паслухмянасці і даверы.

Ісая ўспамінае словы Яхвэ, адрасаваныя Яго непаслухмяным людзям, якія ўсё яшчэ пакідаюць Яго, уступаюць у бескарысныя палітычныя і ваенныя саюзы: "Бо так кажа Госпад Бог, Святы Ізраілеў: застаючыся на месцы і ў спакоі, вы ўратаваліся б; у цішыні і спадзяванні і моцнасць вашая" (Іс 30:15). Вера патрабуе інтэграцыі ва ўнутраным даверы. Мы бачым тут творчую сілу і ўрадлівасць маўчання. Цішыня дазваляе нам сабраць растрачаныя і рассеяныя сілы нашага распыленага існавання. Гэта дапамагае нам засяродзіцца на мэце, якая адказвае не толькі глыбокім жаданням нашай істоты, але і намерам Бога ў адносінах да нас.

***с. Ганна Мізавец SJE,***
*waladarka.by*

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*З сардэчнай цеплынёй і пачуццём глыбокай павагі дасылаем самыя шчырыя словы віншавання нашаму дарагому **ксяндзу-пробашчу Тадэвушу Кавальскаму** з нагоды яго імянін (28 кастрычніка) і Дня нараджэння, які адзначыць 14 лістапада.*

*Калі вам давялося сустрэць на сваім жыццёвым шляху айца Тадэвуша, то можна лічыць, што вам вельмі пашанцавала. Гэта чалавек, які запамінаецца на ўсё жыццё. Пан Бог адарыў яго шырокай і адкрытай душой, надзяліў дабрынёй і ціпласцю, разуменнем і мудрасцю ў духоўных і жыццёвых справах. Ад размовы з ім, ад яго ўсмешкі і добразычлівасці робіцца вельмі хораша і радасна на душы і сэрцы.*

*Мы бачым, як шмат працуе наш паважаны айча, як хвалюецца аб праблемах парафіі, Касцёла і заўжды застаецца ўважлівым і чулым да турботаў кожнага верніка.*

*Дзякуем Пану Богу, што даў нам такога святара! Шчыра віншуем Вас, наш дарагі айча Тадэвуш! Жадаем Вам моцнага здароўя, даўгалецця, сілы, цярплівасці на гэтым нялёгкім шляху, на які паклікаў Вас Пан Бог! Няхай Міласэрны Езус, якога Вы трымаеце ў сваіх далонях, кожны дзень прытуляе Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца і заўсёды блаславіць Вас на добрыя ўчынкі і прыгожыя ўзнёслыя думкі! Таксама жадаем дароў Духа Святога, апекі і абароны, Маці Божай Міласэрнай любові Панны Марыі! Божага блаславення Вам і Вашым родным!*

***З вялікай павагай, сардэчнай удзячнасцю, любоўю і малітвамі – вернікі касцёла Езуса Хрыста – Валадара Сусвету ў Бягомлі***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – А; 4 – В; 5 – В; 6 – А; 7 – Б; 8 – Б

# "Дарэмна ліра грае аслу"

## Дзесяць бліскучых цытат святога Гераніма

**Яго невыноснае пачуццё гумару кранала за жывое і дадавала яму ворагаў.**

Святы Геранім, святар і доктар Касцёла, найбольш вядомы нам тым, што з'яўляецца аўтарам перакладу на лацінскую мову Святога Пісання – так званай Вульгаты. Аднак мала хто ведае, што быў ён таксама вядомы як адзін са святых вар'ятаў, які гаварыў тое, што думаў, і знаходзіў сабе шмат ворагаў.

Кажуць, што святога Гераніма "ўратаваў" яго аскетызм. Адзін біскуп, гледзячы на абраз святога Гераніма, на якім той б'е сябе ў грудзі каменем, сказаў пра яго: "Добра, што ты маеш гэты камень, бо без яго Касцёл бы ніколі цябе не кананізаваў ("Жыццё Святых" Албан Батлер).

Вось дзесяць натхняльных цытат святога Гераніма, якія дазваляюць паглядзець на папулярнага святога з крыху іншага ракурсу:

■ Пачні зараз быць тым, чым будзеш у будучыні.

■ Твар – люстэрка розуму, а вочы без слоў вызнаюць сакрэты сэрца.

■ Сябра доўга шукаеш, рэдка знаходзіш, і яго цяжка ўтрымаць.

■ Дарэмна ліра грае аслу.

■ Усё павінна мець у сабе вострую прыправу праўды.

■ Не дазваляй, каб твае ўчынкі супярэчылі тваім словам. Каб ніхто не сказаў: "Чаму не практыкуеш тое, што прапаведуеш?"

■ Святара, які вядзе гаспадарку і які паднімаецца ад галечы да багацця, ад сціпласці да высокага становішча, пазбягай, як чумы.

■ Самае страшнае – не разумець свайго няведання.

■ Калі поўны страўнік, лёгка гаварыць пра пост.

■ Хто не ведае Святое Пісанне, той не ведае Хрыста.

*Пераклад*
***Вікторыі Колзун,***
*catholicnews.by*

*Паводле pl.aleteia.org*

кс. Андрэй Кулік




# Вечнае спачыванне, вечная памяць...

***Усіх адна цікуе непазбежнасць –***
***Дарога, карацейшая з дарог,***
***Дзе забяспечаны спакой і незалежнасць,***
***Без мітусні, без гора і трывог...***

# Мат – гэта мова д'ябла

**Мат – што гэта? Чалавек павінен разумець, з якім агнём ён жартуе. Курыльшчыка папярэджваюць, паказваючы згнілыя лёгкія, алкаголіка – дэманструючы паразы печані. Людзі ведаюць, на што ідуць і чым рызыкуюць.**

■ **с. Ганна Мізавец SJE**, *waladarka.by*

Брыдкаслоўе – не проста лаянка, імкненне атрымаць верх над праціўнікам у спрэчцы. Яно накіравана ў першую чаргу супраць Бога, за што атрымала назву "чорнай лаянкі".

Мацюкацца – значыць, "лаяцца па-чорнаму". З дахрысціянскіх часоў мат носіць выключна магічны, сакральны характар. Ён элемент служэння сатане. Кожнае мацюкальнае слова – гэта блюзнерства супраць Бога і ўслаўленне сатаны. Таму не выпадкова, што нецэнзурныя словы ў некаторых замяняюць малітвы. У складаныя хвіліны, у цяжкай працы чалавек не шукае дапамогі ў звароце да Бога, а брыдкасловіць. Успleск энергіі ў матныя словы – і справа рухаецца, хоць штурхае яго зло, якому такім чынам аддае сябе чалавек. Далей выпрацоўваецца ўмоўны рэфлекс: дрэнна табе – лайся, брыдкаслоў. Так чалавека адвучваюць ад Бога. Таму трэба сказаць выразна і ясна, што мат – гэта служэнне сатане, якое чалавек ажыццяўляе па ўласнай волі і публічна. Магчыма, камусьці гэтага будзе дастаткова, каб моцна задумацца і кантраляваць сваё маўленне.

Рускі мат – асаблівы, такіх нізкіх і брудных слоў няма ў іншых мовах. Матныя словы – гэта імёны язычніцкіх багоў, гэта значыць, нечысці. І чалавек, які прамаўляе гэтыя словы, аўтаматычна заклікае дэманаў на сябе, сваіх дзяцей і свой род. Тут мы маем справу з сакрамантам слова: каго клічаш, той і прыходзіць. Называеш чалавека па імені – ён адклікаецца. Заклікаеш імя Божае ў малітве – Госпад адкажа, калі будзе Яго воля. Калі вымаўляюцца імёны чарцей, д'ябла, дэманічных сіл, адгукаюцца дэманы, якія і суправаджаюць чалавека, а ён атрымлівае ад іх сілу і жорсткасць. А самае агіднае, калі ў гэты набор бруду ўплятаецца імя маці. Для любога чалавека, які лічыць сябе нармальным, вымаўленне гэтых выразаў азначае яго ўласнае апусканне ў яму бруду. Але даўгі даводзіцца плаціць, і сатана збірае шчодрую даніну: п'янства, самагубства, цяжкія хваробы.

Людзі апраўдваюць брыдкаслоўе раздражненнем, страхам – нібыта адбываецца разрадка. Нічога падобнага! Мат – гэта чорная энергія. У ім няма любові і няма ніякай стваральнай сілы. Ён нясе знішчэнне. І людзі, кідаючыся брыдкімі словамі, нават не падазраюць пра тыя наступствы, якія яны нясуць з сабой.

Прасцей кажучы, чалавек, які лаецца матам, дае злу завалодаць сабой, траціць здароўе, сілу, скарачае жыццё. У народзе кажуць, што страшны нож не за поясам, а на канцы языка. Словам мы ствараем або руйнуем. Ад нашых слоў залежыць здароўе і дабрабыт нас і нашых дзяцей! Таму пачніце з сябе, кантралюйце сваё маўленне, не давайце чорнай лаянцы атрымаць верх над вамі. Перш, чым вымаўляць брыдкія словы, узгадайце, што гэта наносіць вам непапраўную, страшную шкоду.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Рудзінская Р.А.** *(Яцкавічы)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Францішак і Аліна Камянецкія** *(Докшыцы)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Сапель М.А.** *(Браслаў)*, **Феакцістава Л.М.** *(Камарова)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **парафіяне з Бягомля**, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Алена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Казімір Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Рамуальда Асятрова** *(Радзюкі)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Альбіна Шылько** *(Глыбокае)*, **Анатоль і Аліна Пярхальскія** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Бэнедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

Дата нараджэння чалавека і дата яго смерці, а паміж імі – чалавечае жыццё. Чалавек у сваім жыцці можа насладзіцца, натаптаць, насмецiць, а можа пакінуць след – незабыўны след у памяці людзей, з якімі яму давялося крочыць па жыцці.

Ёсць у прыродзе восень, і ёсць яшчэ такая пара, як восень жыцця – час азірнуцца на пройдзены шлях. І калі прыродная восень аддае апошняе цяпло – наступае лістапад. Той месяц, у якім мы, можа, найбольш задумваемся над сваім жыццём, над тым, які след на зямлі пакінем пасля сябе. Успамінаем блізкіх і дарагіх нам людзей, якія ўжо адышлі з гэтага свету. Наша памяць пра іх становіцца больш жывою, а смутак – глыбейшым. Менавіта ў гэтыя дні мы спяшаемся на могілкі да сваіх родных, каб яшчэ раз успомніць іх, памаліцца за іх з надзеяй, што пры жыцці нашы блізкія спадзяваліся на гэта.

Могілкі – гэта святое месца, дзе знайшлі вечны прытулак нашы родныя, блізкія і проста знаёмыя. І як часам балюча бачыць закінутыя і парослыя пустазеллем і бур'яном магілы. І на душы становіцца неяк няўтульна, самотна. Бо мы ведаем, што ў многіх, чые магілы маюць такі непрыстойны выгляд, ёсць жывыя дзеці. Няўжо іх гэта не бянтэжыць?! І калі мы праходзім паўз такія закінутыя магілы, то бачым, як на нас моўчкі пазіраюць з помнікаў вочы, якія нібыта пытаюць: "А дзе ж нашы родныя?.." І хочацца цешыць сябе надзеяй, што ў гэтым годзе да іх абавязкова яны прыедуць.

Мы, жывыя, павінны дбаць, каб могілкі выглядалі належным чынам, каб памяць пра продкаў не адыходзіла ў забыццё. Бо патрэбна не так і многа: прыбраць магілку, запаліць свечку і памаліцца за душу памерлага – аддаць даніну памяці і павагі. Бо, можа, іх душы чакаюць нашай дапамогі? Мы ведаем, што малітва за душы памерлых мае вялікую моц. Бо не паспеем і мы агледзецца, як самі апынемся сярод іх. І калі мы будзем міласэрнымі да іх душаў, то, можа, і пасля нашай смерці хтосьці таксама памоліцца за нас, каля нашых магілаў сустрэнуцца нашы дзеці, унукі, праўнукі, проста знаёмыя.

Мне здаецца, што чалавек жыве, пакуль жыве пра яго памяць. Дык давайце ж ніколі не забываць, што нашае жыццё – гэта толькі сон, што смерць недалёка, што яна ў хуткім часе можа нас напаткаць, што пасля яе нас чакае справядлівы суд, які стане вырашальным для нашай вечнасці.

...І трапечуць агеньчыкі свечак у першыя лістападаўскія дні. На Дзень усіх Святых і на Дзяды – за спачын душаў нашых продкаў. І высвечваюць на помніках імёны тых, хто назаўсёды адышоў у вечнасць. Але жыве светлая памяць...

І патрэбна верыць у гэтае свята!

***Лілія Феакцістава,***
*в. Камарова*

*P.S. Радкі з верша*
*Сяргея Грахоўскага*



# Грех ли отказываться от защиты родины?

***Что делать, когда перед тобой стоит выбор: отказаться от защиты родины или отправиться на фронт, где убийства нравственно допустимы? Грех ли отказываться от защиты родины?***

Неверно думать, будто убийства могут быть нравственно допустимы, даже если речь идёт о войне. Убивать на войне так же недопустимо, как и при любых других обстоятельствах.

Оборонительная война не может иметь целью уничтожение врага: единственная нравственно допустимая цель – это воспрепятствовать врагу совершать насилие. Для этого используются различные средства, главные из которых – переговоры и диалог. Всегда, в любых ситуациях, необходимо настаивать на этих средствах.

Если военнослужащий получает приказ убить врага, он стоит перед серьёзным выбором совести. С нравственной точки зрения это недопустимо, и в этом случае необходимо отказаться от исполнения такого приказа, например, бомбардировать города и мирное население с целью уничтожить врага. Святой Иоанн Павел II говорил: "Сегодня масштабы и ужасы современной войны, будь она ядерной или обычной, делают её абсолютно неприемлемой в качестве средства разрешения споров и конфликтов между нациями. Война должна принадлежать к трагическому прошлому и оставаться в истории. Для неё не должно быть места в планах человека на будущее". Эти слова Папа произнес ещё в 1982 году.

Защита страны или сообщества людей является долгом. Поэтому в некоторых случаях можно говорить о грехе отказа от долга защиты. Обратимся к тексту Катехизиса Католической Церкви: "Законная самозащита может быть не только правом, но серьёзным долгом для того, кто несёт ответственность за жизнь других. Защита общего блага требует того, чтобы несправедливый агрессор оказался не в состоянии причинять вред. По этой причине те, кто обладает законной властью, также имеют право применять оружие с целью отражения агрессии против гражданского сообщества, за которое они ответственны" (2265). Однако это право применять оружие не означает права убивать. Например, правоохранительные органы также носят с собой оружие, но не для того, чтобы убивать. И если им приходится пользоваться этим оружием, целью является не лишение жизни преступника: с помощью оружия они должны сделать всё возможное, чтобы остановить его и задержать.

Согласно социальному учению Католической Церкви, каждый, кто служит в вооруженных силах, призван защищать добро, истину и справедливость. При этом каждый военнослужащий имеет моральное обязательство сопротивляться приказам, требующим совершения преступлений против права народов и его универсальных принципов. Военные несут полную ответственность за действия, попирающие права личностей и народов или нормы международного гуманитарного права. Такие действия, утверждается в социальном учении, невозможно оправдать, ссылаясь на подчинение приказам начальства.

Обращаясь в 1987 году к альпийским военным подразделениям, Иоанн Павел II сказал: "Ваша первая ответственность называется миротворчеством. В основе военного дела лежит нравственная необходимость защищать духовные и материальные блага национальной общины, Родины. Эта защита, залог общего блага определённого народа, является предпосылкой для мира и согласия между нациями. Разумеется, следует рассматривать проблемы отношений между нациями и вопросы защиты с обновленным менталитетом, но остается фактом то, что нужно оградить себя от попыток агрессии, несправедливости и насилия, которыми часто пытаются воздействовать на различные слои общества. В этом контексте защита является предосторожностью, правом и долгом, побуждающим людей к постоянной бдительности, как внутренней, так и внешней, для предупреждения возникновения войны".



И ещё – очень важное дополнение из Свода социального учения: "Те, кто из принципиальных соображений уклоняется от несения военной службы, когда она обязательна, поскольку совесть велит им отказаться от всякого использования силы или от участия в определенном конфликте (возражение по совести), должны быть готовы нести альтернативные виды службы". В соборной конституции "Gaudium et spes" упоминается о праве отказываться от обязательной воинской службы по соображениям совести: "Представляется справедливым, чтобы законы проявили гуманную предусмотрительность в случае тех людей, которые по мотивам совести отказываются применять оружие: пусть они изберут какую-либо иную форму служения человеческому обществу" (GS 79).

Таким образом, участие в оборонительных военных действиях является моральным долгом, но таким же моральным долгом является и отказ от выполнения приказов, противоречащих человеческому достоинству. Кроме того, допустим выбор альтернативной формы служения Родине.

*Радио Ватикана*

# Когда один из супругов-нехристиан принимает Крещение, становится ли их брак Таинством?

***Когда один из супругов-нехристиан принимает Крещение, становится ли их брак Таинством? Нужно ли им в таком случае венчаться?***

Гражданский брак, заключенный в ЗАГСе между двумя некрещёными, называется естественным браком. Речь идет о подлинном и действительном бракосочетании. Брак был установлен Богом на заре сотворения мира, и Сам Бог его благословил: "И благословил их Бог, и сказал им Бог: плодитесь и размножайтесь" (Быт 1,28). Несмотря на грех Адама, брак не утратил это благословение. Иисус же возвел его в Таинство.

Когда оба некрещёных супруга обретают веру во Христа, их брак становится Таинством. Таким образом, нет необходимости возобновлять взаимное согласие. Узы, которые были установлены между супругами в момент их супружеского согласия, при Крещении возводятся в достоинство Таинства. Этому видению соответствует церковная практика: Священная канцелярия еще в 1860 и в 1881 годах издала декреты, согласно которым возобновление брачного согласия в случае супругов, принявших Крещение, является желательным, но не обязательным.

Если же только один из супругов принимает Крещение, то их брак не становится Таинством, даже по отношению к крещёному супругу. Такой брак может быть расторгнут "по привилегии апостола Павла", в то время как завершённый брак, являющийся Таинством, никогда не может быть расторгнут. Брак между крещёным и некрещёным не может быть Таинством, и супружеские узы для некрещёной стороны не могут быть сверхестественными, какими они становятся в Таинстве Брака. Такое супружество не наделено тем мистическим смыслом, на котором зиждется Таинство Брака. Это объясняется тем, что брак – это отношения, а значит, они затрагивают обоих супругов. Поэтому даже если один из них крещён, эти отношения не могут быть Таинством даже для него, поскольку это не может произвести того же эффекта для другого супруга.

Однако в Католической Церкви существует и иное мнение (один из его выразителей – богослов Бернхардт Бартманн), согласно которому в случае крещения одного из супругов по отношению к нему их брак становится Таинством.

Иначе выглядит случай, когда католик вступает в брак "согласно гражданской форме" с христианином-некатоликом (что не следует путать с заключением гражданского брака). В этом случае оба они крещены, и если католическая сторона получает от ординария епархии предписанную диспенсацию, их брак, совершенный согласно гражданской форме, является действительным и, в силу Крещения, является также Таинством.

Брак между католиком и христианином-некатоликом, совершённый "согласно гражданской форме" и с диспенсацией епископа, не имеет ничего общего с гражданским браком между двумя крещёными. Гражданский брак между двумя крещёными, заключенный только в муниципальных учреждениях, недействителен. Как правило, в этом случае супруги не желают венчаться и поступают вразрез с практикой Церкви. С церковной точки зрения такой брак недействителен. В то время как брак, заключённый "согласно гражданской форме" с согласия Католической Церкви, действителен, и он является Таинством.

*Радио Ватикана*

## Кто получил свою награду на земле, получит ли её на небе?

***Что имел в виду Иисус, говоря, что те, кто уже получил свою награду на земле, уже не получат её на небе? Значит ли это, что следует держаться подальше от славы и стремления к материальному достатку?***

Вероятно, имеются в виду слова Господа, произнесенные в Нагорной проповеди. Их следует рассматривать в контексте: "И если вы приветствуете только братьев ваших, что особенного делаете? Не так же ли поступают и язычники? И так будьте совершенны, как совершен Отец ваш Небесный. Смотрите, не творите милостыни вашей пред людьми с тем, чтобы они видели вас: иначе не будет вам награды от Отца вашего Небесного. <...> И, когда молишься, не будь, как лицемеры, которые любят в синагогах и на углах улиц, останавливаясь, молиться, чтобы показаться перед людьми. Истинно говорю вам, что они уже получают награду свою" (Мф 5,46-47).

Иисус не осуждает стремление подавать добрый пример, ведь Он Сам заповедал: "Так да светит свет ваш пред людьми, чтобы они видели ваши добрые дела и прославляли Отца вашего Небесного" (Мф 5,16). Но Он не приемлет тех, кто делает добро ради собственной славы, ради тщеславия. В этом случае добро еще больше замыкает человека в собственном эгоизме. Вот почему Иисус говорит, что не нужно трубить перед собой, когда подаешь милостыню, но левая рука не должна знать, что делает правая. То же самое относится к молитве и посту.

Добрые дела совершаются ради того, чтобы Царство Божье возрастало в сердцах. Если же они совершаются исключительно из человеческих побуждений, ради славы и ради благодарности мира сего, то награда уже получена – от мира сего. То, что мы делаем ради земной славы, не может иметь сверхъестественного значения.

*Радио Ватикана*

# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

## Бог дае 10 прыказанняў свайму Народу

У гэтым нумары даведаешся, як Бог дараваў 10 Божых прыказанняў людзям.

Прыказанні, якія Бог даў ізраільскаму народу праз Майсея актуальны і для сучасных хрысціян, гэта значыць для ўсіх нас. Будзем разважаць над урыўкамі са Святога Пісання: Кніга Зыходу 19-20

**№1 заданне**

Бог паклікаў Майсея, каб праз яго даць народу свой закон. На якой гары Гасподзь даў прыказанні Майсею? Выберы правільны адказ.

А. 


Б. 


В. 


Правер сябе, прачытаўшы ўрывак з Кнігі Зыходу 19, 20-25.

**№2. заданне**

Злучы кропкі на малюнку і паглядзі, што прынёс Майсей, вярнуўшыся з гары да народа. Прачытай урывак з Кнігі Зыходу 20, 1-20




**№3 заданне**



Дапамажы Майсею абмінуць усе перашкоды і сыці з гары да народу

**№4 заданне**

Калі кіроўца не ведае правілаў дарожнага руху – ён не можа безапасна рухацца па дарозе на машыне. Калі хрысціянін не ведае Божых прыказанняў - ён не ведае асноўных "правіл" хрысціянскага жыцця і не можа безапасна рухацца па дарозе да Неба.

На гэтых скрыжалях размешчаны 10 Божых прыказанняў, у прапушчаных радках дапішы тыя запаведзі, якіх не хапае.

**Калі яшчэ не ведаеш 10 Божых прыказанняў, абавязкова іх вывучы!**

**Я Пан Бог твой, які вывеў цябе з зямлі егіпецкай, з дому няволі.**

**1. Не май іншых багоў, апроч Мяне.**

**2.** ____________________

**3.** ____________________

**4. Шануй бацьку свайго і маці сваю.**

**5** ____________________

**6** ____________________

**7. Не крадзі**

**8.** ____________________

**9.** ____________________

**10. Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму.**

**Папрасі дарослых цябе праверыць.**

## МАЛІТВА

Лістапад – гэта месяц, калі мы атуляем сваёй малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца. Маліся за ўсіх памерлых гэтай малітвай:

**Божа, міласэрны Пане, дай душам слугаў Тваіх месца ў небе, благаслаўлёны супакой і яснасць Твайго святла. Пане, выслухай ласкава маю малітву за душы слугаў Тваіх, за якіх я малюся, просячы, каб Ты прыняў іх у супольнасць сваіх святых. Учыні, прашу Цябе, Пане, каб душы слугаў Тваіх, ачышчаныя ад сваіх правінаў, атрымалі прабачэнне і вечны спачынак. Амэн.**

*Мастачка: **Вольга Будкіна;** ідэя: **Вікторыя Колзун***

# Рэкалекцыі для сужэнцаў пройдуць у Браславе

**З 25 па 27 кастрычніка ў Браславе ў кляштары сясцёр-эўхарыстак пройдуць рэкалекцыі для сужэнцаў, якія праводзяць удзельнікі руху "Сужэнскія сустрэчы".**

**Запрашаюцца ўсе сем'і**, незалежна ад канфесійнай прыналежнасці: і католікі, і праваслаўныя, і нават хрысціяне, якія не практыкуюць веру. А таксама тыя, хто жыве ў шлюбе, і тыя, толькі распісаны ў ЗАГСе.

**Пачатак – 25 кастрычніка а 18.00, заканчэнне – 27 кастрычніка каля 15.00.**

У рэкалекцыях абавязковы ўдзел ва ўсёй праграме абодвух сужэнцаў і без дзяцей.

**Папярэдні запіс абавязковы па тэл.: +375 (29) 779 19 03 (Вольга), +375 (29) 250 06 99 (Аляксандр).**

Гэтыя рэкалекцыі з'яўляюцца цудоўнай магчымасцю палепшыць узаемаадносіны паміж мужам і жонкай, навучыцца разумець адно аднаго. Унікальная аўтарская праграма сужэнскіх рэкалекцый дапамагае па-новаму паглядзець адно на аднаго і на свае сужэнскія адносіны, аднавіць свае пачуцці і зрабіць пэўныя крокі па выхадзе з крызісаў сужэнскага жыцця.

Для маладых сем'яў гэта стане моцным падмуркам для будавання сваіх сужэнскіх адносін. Прапануем перажыць гэтыя рэкалекцыі ў духу дыялогу і напоўніць сваё сямейнае жыццё новым сэнсам. Удзельнікі атрымаюць сапраўдны інструмент, якім змогуць карыстацца кожны дзень у сваім сямейным жыцці.

*Паводле catholic.by*

# Сустрэць новы год у Польшчы разам з хрысціянскай моладдзю? Магчыма.

# Едзем на Тэзэ!

**Чарговая Еўрапейская сустрэча моладзі, якая арганізуецца Супольнасцю Тэзэ, пройдзе з 28 снежня 2019 года па 1 студзеня 2020 года ў Вроцлаве (Польшча).**

Будучую сталіцу экуменічнага форуму, які аб'ядноўвае хрысціянскую моладзь з розных краін Еўропы, абвясціў прыёр Супольнасці брат Алаіз Лозэр. Гэта адбылося 30 снежня 2018 года падчас вячэрняй малітвы ў межах сустрэчы, што праходзіла ў Мадрыдзе.

Вроцлаў стане трэцім польскім горадам, які будзе прымаць еўрапейскую хрысціянскую моладзь на сустрэчы, арганізаваныя Супольнасцю Тэзэ. У 1999 г. гэты форум праводзіўся ў Варшаве, а ў 2009 г. – у Познані.

Еўрапейскія сустрэчы моладзі адбываюцца на мяжы старога і новага года, кожны раз у іншым горадзе кантынента. Форумы праводзяцца з 1978 г. Самы першы прайшоў у Парыжы.

Звычайна іх праграма прадугледжвае пражыванне моладзі ў сем'ях і школах. У дадатак да рэлігійных сустрэч арганізуецца багатая культурная праграма. У навагоднюю ноч адбываецца "Малітва за мір ва ўсім свеце" і "Фестываль народаў". Акрамя сустрэч у парафіях маладыя людзі штодзённа збіраюцца для малітвы ў буйных выставачных цэнтрах ці базіліках.

Сястра Тацццяна Гмыза SJE, якая нясе служэнне ў Полацкай парафіі, запрашае маладых людзей ад 16 да 35 гадоў на супольную паездку ў Вроцлаў на Еўрапейскую сустрэчу Тэзэ, якая адбудзецца з 28 снежня па 1 студзеня.

**Кошт: 70 еўра + 35 еўра** (унёсак арганізатарам).

**Кантактная інфармацыя: +37529 558-46-25 (с. Тацццяна).**

### Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.

**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**

**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# "Новы Запавет для дзяцей і моладзі" па-беларуску прэзентавалі ў Мінску

**21 верасня ў Мінскім тэалагічным каледжы імя святога Яна Хрысціцеля з удзелам арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча адбылася прэзентацыя "Новага Запавету для дзяцей і моладзі" па-беларуску – унікальнага выдання, падрыхтаванага Секцыяй па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры ККББ.**




Як паведамляе Catholic.by, "Новы Запавет для дзяцей і моладзі" па-беларуску – гэта чарговая версія бестселера, які папулярна называецца "Біблія з папугаем", даступная ў свеце на многіх мовах.

Выданне падрыхтавана спецыяльна для юных чытачоў. Поўны пераклад Новага Запавету пададзены разам з каментарыямі, малюнкамі, тлумачэннямі, каляровымі картамі, дыдактычнымі заданнямі, цікавай інфармацыяй, якая знаёміць з тагачасным жыццём, звычаямі і людзьмі Бібліі. Усё гэта зроблена для таго, каб юны чытач свядома і з разуменнем мог плённа карыстацца Божым словам.

Гэта дасканалая прылада евангелізацыі і дыдактычны дапаможнік для святароў, катэхетаў, бацькоў і тых, хто хоча заахвоціць дзяцей і моладзь чэрпаць духоўную падтрымку і каштоўнасці са скарбніцы Хрыстовага вучэння.

"Новы Запавет для дзяцей і моладзі" (Мінск, 2019) падрыхтаваны стараннем Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі і выдадзены дзякуючы выдавецтву "Pro Christo".

**Адметнасцю кнігі з'яўляюцца:**

- поўны тэкст Новага Запавету ў поўным афіцыйным рыма-каталіцкім перакладзе на беларускую мову (Мінск, 2017);
- уводзіны да кожнай кнігі і яе кароткі змест;
- слоўнік і каляровыя карты;
- каляровыя ўстаўкі з біблійнымі цікавінкамі і прыгодніцкімі ілюстрацыямі;
- тлумачэнне цяжкіх паняццяў і тэмаў;
- тэматычныя рамкі ў прывабнай форме;
- важныя вершы, якія варта запомніць;
- інфармацыя і малюнкі паказваюць, як выглядала жыццё ў старажытнасці.

Каардынатарам распаўсюджвання "Новага Запавету для дзяцей і моладзі" (Мінск, 2019) у дыяцэзіях Беларусі з'яўляецца Секцыя па перакладзе.

**Замову** на атрыманне кніг можна падаць на e-mail: ***sekcyja@gmail.com***

**Набыць кнігу** можна ў кнігарні "Духоўная кніга" (г. Мінск, вул. Багдановіча, 25).

**Запрашаем на цікавую прыгоду** – у вандроўку па старонках заўсёды жывой Кнігі, бо яе героямі можам быць таксама і мы! Застаецца толькі знайсці час і жаданне адправіцца ў гэтае падарожжа разам з яе натхнёнымі аўтарамі.

*Секцыя па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры ККББ*

# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6102

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 16.10.2019 г. у 09.39

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь